
Культурная Барысаўка➔3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Свята незалежнасці➔9

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 47 (3263) Год LXIII | Беласток, 25 лістапада 2018 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)




# Грузія — мая любоў

*Gruzini traktują gości jak dzieci.*
**Wojciech Górecki, Toast za przodków.**

— Мікола, калі толькі прыземліцеся ў Кутаісі, папрасі тэлефон у любога грузіна і звані.

— Малхаз, гэта будзе ў чатыры раніцы. Лепш я патэлефаную табе ўжо з Тбілісі.

— Не, звані раней, з дарогі.

У дарозе, аднак, нам было не да тэлефонаў. Хто хоць раз ехаў у грузінскай маршрутцы, той мяне зразумее. Хто не ехаў, хай сабе ўявіць пакручастую дарогу і шафёра, які павароты бярэ на поўнай хуткасці, абганяе машыны, дзе яму падабаецца, пры гэтым падпальвае цыгарэту, трубіць на іншых кіроўцаў і голасна слухае музыку. Калі ўжо прывыклі да гэтай экстравагантнасці, а на двары развіднела, сталі захапляцца краявідамі. А то серпанцінамі Сурамскага перавалу, а то раскінутымі ў зялёных далінах царкоўкамі і дамамі з верандамі, а то белымі ад снегу вяршынямі высокага Каўказа. І дарога з Кутаісі ў Тбілісі праляцела імгненна. У гатэль дабраліся каля дзясятай і ўжо на парозе пачулі, што званіў ваш *друг* і прасіў неадкладна з ім кантактавацца.

З Малхазам Чэміяй я бачыўся адзін раз і то ўсяго якіх гадзіну-дзве. Прычым ад тае сустрэчы прайшло больш за дзесяць гадоў. У пачатку стагоддзя Малхаз быў у саставе праваабарончай экспедыцыі, якая даследавала беларуска-польскае памежжа на прадмет магчымых канфліктаў. Сам ён па адукацыі фізік, па захапленні альпініст, а па неабходнасці салдат, які ваяваў за незалежнасць Грузіі. А потым стаў праваабаронцам і спецыялістам па прадухіленні і вырашэнні міжэтнічных канфліктаў, а на міжнародных канферэнцыях спатыкаўся са сваімі надаўнімі ворагамі абхазамі, асецінамі ці чачэнцамі. Місія на Гарадзеншчыне і Беласточчыне была мірнай, а гаспадары паабапал мяжы стараліся даказаць грузіну, што тут жыве не менш гасцінны народ за каўказцаў. Малхаз не толькі не ўбачыў тут канфліктнага патэнцыялу, але і сустрэў нас у Тбілісі як родных — двухлітровай бутэлькай хатняга віна «Кіндзмараулі».

— Значыць так, якія ў нас планы, — Малхаз папрасіў картку паперы, выняў асадку і пачаў распісваць парадак нашае пабыўкі. — Сёння аўторак, паедзем пад тэлевізійную вежу і помнік Маці Грузіі, паглядзім Тбілісі зверху. Вы хінкалі елі? Не? Абавязкова паабедаем. Заўтра трэба пад'ехаць у Мцхету і манастыр Джвары, паслязаўтра...

Нам аж сківіцы адвіслі ад такога нечаканага клопату за нас. Моўчкі сядзелі, слухалі як зачараваныя і на ўсё пагаджаліся, хаця не вельмі нам падабалася такая развязка, якая пазбаўляла нас якой-небудзь незалежнасці. Ды і мы ў нашых падарожжах ніколі не трымаліся строгіх планаў. На шчасце Малхазу хапіла імпэту на запланаванне трох дзён, затым адклаў картку і пайшла імправізацыя. А да тых планаў ні ён ужо не вярнуўся, ні тым больш мы.

* * *

Прырода, гісторыя, архітэктура, экзотыка, кухня — кожны ў падарожжах шукае свайго. А мне з гадамі месцы ўсё больш і больш асацыююцца з людзьмі. Каб быць дакладным, то новых мне не вельмі хочацца пазнаваць, але са старымі знаёмымі люблю спатыкацца, перакінуцца словам, ці хаця б прыпамінаць, што яны паказвалі, што расказвалі. Не ўяўляю сабе цяпер візіту ў Тбілісі, каб хоць раз не сустрэцца з Малхазам. Ён нас не толькі павазіў па горадзе і па наваколлі, але перш-наперш увёў у грузінскі свет. Паказаў, дзе прадаюць тэлефонныя карткі, як таргавацца з таксістамі і маршрутчыкамі, як есці хінкалі і дзе варта прысесці на каву, а дзе не, бо там толькі абдзіраюць турыстаў. Тэлевізійная вежа цяпер для мяне гэта не проста пункт, з якога найпрыгажэйшая панарама Тбілісі, а месца, якое Малхаз абараняў са зброяй у руках.

Малхаз Чэмія паказаў нам першую сталіцу Картліі (Грузіі) Мцхету і апісаны Міхаілам Лермантавым манастыр Джвары (Крыж), з якога пачыналася хрысціянства ў Грузіі. Адтуль глядзелі мы на аддалены за сто кіламетраў снежны Казбек, не проста як манументальную гару, а вяршыню, на якую Малхаз з сябрамі паднялі ў 1991 годзе сцяг незалежнай Грузіі. Тры гады пазней разам пад'едзем пад саму гару і да памежнага пераходу з Расіяй у Дар'яльскай цясніне. Да таго кожны раз будзе намі апекавацца па тэлефоне, падказваць, куды даехаць і што пабачыць па дарозе. У Кутаісі звяжа нас са сваім далёкім сваяком Іраклі Джулакідзе — біёлагам, альпіністам і спелеолагам (пазней даведаемся, што былым рэктарам Кутаіскага ўніверсітэта), які абвозіць нас па Імерэтыі, Мінгрэліі і Сванетыі. Нічога, што сваякі не бачыліся дзясяткі гадоў — адзін тэлефон і няма пра што казаць.



■ У гасцях у сям'і Ахалкацышвілі; Шыльда, Кахетыя, кастрычнік 2018 г

— Заўтра еду ў Кахетыю да знаёмай сям'і па віно на Вялікдзень, — адазваўся ў слухаўцы голас Малхаза, — сябра прасіў купіць яму дзвесце літраў, сабе таксама столькі вазьму, бо дзвесце літраў віна дома павінна быць, на ўсялякі выпадак.

Так больш-менш прагучала запрашэнне ў падарожжа, ад якога мы не маглі і не хацелі адмовіцца. Так мы першы раз пабачылі Алазанскую даліну. Быў красавік, Малхаз некалькі разоў пытаўся па дарозе, ці праедзем мы Гамборскі перавал (1600 метраў), на якім ляжала яшчэ многа снегу, але дарога была чыстая. А перад намі ўжо зялёная, шырокая на 20-30 кіламетраў даліна, абмежаваная з поўдня і поўначы горамі. Асабліва ўразіла, калі мы з Тэлаві глядзелі на белыя трохтысячнікі на другім яе беразе. Гэты вобраз — кананічны для Кахетыі, найбольш віннага рэгіёна Грузіі. Як і падвешаны на скале, між небам і зямлёй Сігнагі — *горад закаханых*, як яго рэкламуюць у турыстычных даведніках.

Хаця ад краявідаў кружылася галава, то ўсё-такі найбольш запомніўся з гэтага выезду візіт у сям'і Ахалкацышвілі ў Шыльдзе — вялікай вёсцы, што прытулілася да схілаў Паўночнага Каўказу. Яны, як амаль усе кахетынцы, маюць свой вінаграднік і ў падвале дома закапаныя ў зямлі вялікія збаны — квэўры, у якіх даспявае віно. Унук гаспадара, васьмігадовы Сахо, спрытна ўстаўляў трубачкі ў квэўры і дапамагаў дзеду напаўняць прывезеныя Малхазам пасуды. Пакуль напаўняліся бочкі віном і бутэлькі чачай, гаспадыня падрыхтавала закуску — сыр сулгуні, рыбу (выбачалася, што няма мяса, але ж пост), салат джанджолі, які нагадвае крыху нашы кветкі акацыі, — а гаспадар дома запрасіў за стол і прыпадняў першы тост за прадкаў. Потым былі за дзяцей, айчыну, герояў, якія за яе загінулі, за поспехі прысутных... Кахетынцы не выпіваюць да дна, затое дбаюць, каб у гасцей перад чарговым тостам была поўная шклянка. Аказалася, што Сахо расце не толькі на гаспадара, пераемніка многіх пакаленняў роду Ахалкацышвілі, але яшчэ спявае і грае на традыцыйным грузінскім чатырохструнным інструменце — пандуры. Адным словам, з дзелавога візіту сябра атрымалася сапраўднае грузінскае застолле — супра. Толькі мы былі гэтым здзіўлены.

А да сям'і Ахалкацышвілі вернемся яшчэ праз тры гады, каб у падзяцы за тую памятную гасціну завезці невялікія падарункі дзецям і візіт зноў скончыцца застоллем, за які скажа тост ужо адзінаццацігадовы Сахо. А спяваць яму дапаможа загледжаная ў брата шасцігадовая сястрычка. І зноў мы выедзем ад іх з пачуццём даўгу.

* * *

Грузія, калі глянуць на карту, невялікая краіна. Але калі пачынаеш яе пазнаваць, бачыш наколькі яна разнавідная і ў прыродным, і культурным плане, і праз гэта настолькі цікавая. І разумееш, чаму кожны грузін перакананы, што менавіта яго рэгіён, яго горад ці вёска, яго зялёная даліна самыя прыгожыя не толькі на Каўказе, але і ў свеце. І хаця на тваёй віртуальнай картцы з планамі з'яўляецца ўсё больш месцаў, якія хочаш убачыць, то бадай самае файнае ў Грузіі, калі пачынаеш вяртацца да тых ужо знаёмых.

(працяг будзе)

**Мікола ВАЎРАНЮК**
**Фота Аліны Ваўранюк**





# Творчы пошук

У сваім інтэрв'ю пасля адзначэння Дня памяці паўстанцаў у Свіслачы, якое гэтым годам як заўсёды адбывалася ў апошнія выходныя кастрычніка, я сказаў што зараз застаецца чакаць пратаколаў і судоў, якія абавязкова будуць і да бабкі хадзіць не варта, каб гэта прадказаць. Так на Гарадзеншчыне ўжо традыцыйна заканчваецца кожны год — судамі над тымі, хто адважыўся ўшанаваць памяць сваіх нацыянальных герояў. І многія тады, пасля таго майго інтэрв'ю, нават папракнулі мяне. Асаблiва тыя, хто быў на гэтым мерапрыемстве першы раз. Маўляў, адкуль гэта вядома, што будуць нас судзіць? Усё ж было прыстойна, нават вуліцу пераходзілі па пешаходных пераходах і выключна на зялёнае святло. І аніводнай заўвагі ніводзін прадстаўнік сілавых ведамстваў нікому не зрабіў.

А такія прадстаўнікі там былі, канешне ж, усё здымалі на відэакамеру і ледзь не ў аблічча кожнаму яе сунулі. Ну і кожны ведае, што святым абавязкам сілавіка ёсць у першую чаргу папярэдзіць прысутных, калі ў іх дзеяннях праглядваецца нейкае парушэнне грамадскага парадку. А з іх боку папярэджанняў не было нават паўнамёкам.

Ды і бывалыя ўдзельнікі гэтага мерапрыемства таксама выказвалі такую думку, што гэтым годам можа і не быць праследу і карных вынікаў. Ну надта ж усё хораша і прыстойна выглядала, што вера ў справядлівасць пачала перамагаць багаты досвед. Чалавек заўсёды хоча верыць у лепшае.

Толькі і гэтым разам досвед паказаў сваю перавагу над марамі і чарговы раз прымусіў працягваць верыць у старое выказванне, што праўда абавязкова пераможа, але пазней. Хочацца, каб хутчэй, каб зараз, але яна перамагае чамусьці пазней, але абавязкова.

Ну а зараз пратаколы сілавікі напісалі, суды пайшлі і будуць працягвацца далей, і нават аўтар гэтых радкоў чарговы раз прадстане перад айчыннай Фемідай, хоць гэтым годам быў у Свіслачы выключна як праваабаронца, прамоў не гаварыў, сцягамі не махаў ну і вуліцу пераходзіў як і іншыя законапаслухмяныя грамадзяне выключна па пешаходным пераходзе і на зялёнае святло.

Мала таго, азнаямляючыся з матэрыяламі справы, нават прозвішча свайго я не знайшоў у рапартах міліцыянтаў. Можна было б здзіўляцца адкуль тады ўзнік пратакол і чаму ён не адпавядае тым рапартам. Але я не здзіўлюся нават тады, калі ў судзе маё прозвішча з'явіцца і нават у тых рапартах, дзе я яго раней не знаходзіў. А чаму б і не, калі аднарукія ў нас могуць пляскаць у далоні, нямыя выкрыкваць антыўладныя лозунгі, а пад пакаранне патрапляць могуць нават тыя, каго фізічна не было на тым месцы, якое па нейкіх не зусім зразумелых фактах прызнаецца месцам правядзення несанкцыянаванай акцыі.

Хаця тут, калі быць да канца шчырым і не крывіць душой, я з нашымі ўладамі ў нечым згодны. Правільна, трэба караць за тое, што так пасіўна сябе паводзіць чалавек там, дзе трэба праяўляць актыўнасць. Гэтых людзей, што прыйшлі без сцяга і нічога не прамаўлялі хіба што варта пакараць за нізкую грамадзянскую актыўнасць і вялую грамадскую пазіцыю. Я б нават артыкул такі ўвёў, каб ужо ўсё было па законе. І частку другую да гэтага артыкула прыдумаў бы для тых, хто ведаў пра такое мерапрыемства, а не з'явіўся на яго ўвогуле. Для тых яшчэ больш моцнае пакаранне ўвёў бы. І ўсё стала б на свае месцы. Удзельнічаеш у акцыі, цябе пакаралі. Не ўдзельнічаеш, таксама дастаў, толькі яшчэ больш. Вось гэта была б справядлівасць у дзеянні. Ніхто не адважыўся б назваць такі артыкул несправядлівым.

Ну але жарты жартамі, толькі ў рэчаіснасці не да жартаў. І зараз гарадзенцы на поўным сур'ёзе абмяркоўваюць ці можна ехаць ім на суд, калі такі будзе адбывацца ў Свіслачы. Бо на маім прыкладзе ўсе бачаць, што пад суд я патрапіў па факце наведвання той Свіслачы. Вось так прыедуць хлопцы на суд, выйдуць пакурыць, а на іх яшчэ адзін пратакольчык. Несанкцыянаванае мерапрыемства. І зноў у суд. І зноў думай, ехаць або не.

Ну а калі яшчэ больш сур'ёзна, то ўсё гэта несур'ёзна. Назавём гэта творчым пошукам, што ў сілавікоў, што ва ўлад, што ва ўдзельнікаў. Толькі занадта зацягнуты.

Віктар САЗОНАЎ

# Віры і віркі

Здзівіла мяне калісьці выказванне былога вязня нацысцкага лагера смерці, які прызнаўся, што за некалькі дзён да вызвалення, пасля чатырох гадоў поўнага прыніжэння, збівання і голаду ў цяні густога дыму комінаў крэматорыя, больш палохала яго думка аб будучым жыцці на «свабодзе», чым наступны адбор да газу. Ён патлумачыў гэта тым, што з цягам часу навучыўся заставацца ў надзвычай складаных умовах, асімілявацца ў іх правільнасцях, але каб выжыць, ён павінен быў забыцца на «нармальнае» жыццё з яго сацыяльным ладам, правамі чалавека і філасофіяй справядлівасці. У адваротным выпадку ашалеў бы або пакончыў з сабой.

Ніхто не любіць змен якія б яны не былі. Мне асабіста не падабаецца нават «добрая змена» ПіС, хоць «добрая» яна ў назве. Аднак гэта нядобрая змена, што відаць і чуваць. Таму ў мяне няма сумневаў, што гэта толькі часовы і мясцовы разлад, такі польскі разлад. Аднак балючы, і думаю, што не толькі для мяне. Не кажучы ўжо пра тое, што кожнае новае, невядомае разбурае ўсталяваны ў розумах людзей існуючы стан, інакш вядомы як статус-кво. Ён характарызуецца прычынна-выніковай паўтаральнасцю і звязаны з гэтым канкрэтны лад. І нават калі б ён быў цалкам разбуральным, чалавек у рэшце рэшт прыстасоўваецца да яго ўтоеных рытмаў, адчуваючы магчымыя небяспекі, зводзіць іх да мінімуму або прадбачальна яго пазбягае. Нават прывыкае жыць у хаосе. Справа ў тым, каб не прывыкаць...

Статус-кво — любое статус-кво — толькі часова прысутны стан дынамічнай сістэмы пастаянных змен. Усё адно, якая гэта будзе палітычная сістэма або чыста фізічная. Раз лепш, часам горш, часам цямней, часам больш выразна. Такім чынам усё плыве, змяняецца, рухаецца, што адкрылі ўжо старажытныя грэкі. Але не гладка. Дастойна. Кагерэнтна. У рэчышчы самай спакойнай ракі хаатычна рухаюцца малекулы вады. Утвараюцца вялікія і меншыя віры або палі ілюзорнага стазісу. Нават у застылай лужыне адбываецца малекулярны Броўнаўскі рух. У Прыродзе нічога не стаіць. І не інакш адбываецца ў чалавечых супольнасцях. Адзінкі ўплываюць на адзінкі, групы на асобныя групы, асяроддзі на асяроддзі. У канчатковым рахунку гэта ўсё разам неяк склейваецца разам у цэласць. Іншая справа, ці тая цэласць уся з'яўляецца прымальнай або непрымальнай. Як пісаў англійскі паэт: «Вялікія віры маюць малыя віркі, якія жывуць з іх хуткасцю, а ў тых віркоў ёсць яшчэ меншыя віркі, і так да клейкасці».

Гэта адбываецца на глабальным і лакальным узроўнях. У адпаведнасці з гэтай паэтычнай формулай тое, што адбываецца сёння ў Польшчы, з'яўляецца часткай больш шырокай глабальнай нестабільнасці. Літаральна на нашых вачах адбываецца маштабаванне каштоўнасцей, якое праходзіць у даволі жорсткі спосаб. А з чалавечай перспектывы сапраўды драматычна. У той жа час некаторыя тэндэнцыі слабеюць, іншыя павялічваюцца. Агульнапрызнаная ідэя дэмакратыі, лібералізму, адкрытасці, цярпімасці, у цяперашнім выглядзе вычэрпваецца. Часова замяняюць іх фундаменталісцкія ідэі, кансерватыўныя, часта з нацыяналістычным або ксенафобскім тонам. Калі некаторыя «віры» набіраюць абаротаў, іншыя губляюць свой першапачатковы імпульс. Да ліку першых адносяцца: пертурбацыі з клiматам Зямлі, вялікія міграцыі, звязаныя з пытаннямі няроўнага размеркавання багацця, а затым з голадам, рэлігійнымі войнамі і войнамі ў цэлым, і, нарэшце, ашарашваючая экспансія ісламскага фундаменталізму. Але гэта толькі кароткі спіс. І яшчэ: прагрэсіруючы заняпад Захаду і віталыгае знясіленне дамінуючых ідэалогій і светапоглядаў; лепшым прыкладам з'яўляецца рэгрэс дэмакратычных ідэй і культур, а затым крызіс культуры лібералізму і магутны крызіс інстытуцыйнага касцёла, які, дарэчы, з'яўляецца адлюстраваннем агульнага дэкадэнтызму. Гэта таксама кароткі спіс. Перамаштабаванне каштоўнасцей заўсёды драматычнае, але гэта цалкам натуральны працэс. Акрамя таго «маштабаванне» не ажыццяўляецца ў адпаведнасці з прадказальнымі правіламі. Часам новы ход падзей разбурае новае завіраванне. Прыкладам гэтаму з'яўляецца «якабінскае» завіраванне падчас Французскай рэвалюцыі. На шчасце, такія бурныя турбулентнасці раптам мінаюць. Іншымі словамі, «маштабаванне» ўяўляе сабой складаную сістэму віроў і віркоў, іх контр- і супрацьвіроў. Яна не мае ані цэнтра, ані перыферыі. Так што гэта не працэс, так ці інакш накіраваны, мэтанакіраваны. Ён хаатычны і нагадвае азартную гульню.

Міраслаў ГРЫКА



Сваімі вачыма

# Выбарчы марафон (7)

У папярэднім нумары «Нівы» з аглядам выбарчых вынікаў не даехалі мы ў Гайнаўскі павет. Цяпер прыглянемся дакладна, што адбылося ў выбарчым плане ў павеце, на тэрыторыі якога беларусы не з'яўляюцца нацыянальнай меншасцю. Затое зараз у грамадска-палітычным плане знаходзяцца яны на этапе непрысутнага выялення. Час Беларускага выбарчага камітэта ў арганізаванай форме застаецца ўжо толькі гістарычным успамінам. На жаль, выявілася гэта зараз і ў самім старце на пасаду бургамістра горада Гайнаўкі, дзе кандыдатамі сталі толькі прадстаўнікі польскай нацыянальнасці. А ўспамінам застаецца кіраванне горадам Анатоля Ахрыцюка — поўнасцю свядомага беларуса, абітурыента Гайнаўскага белліцэя.

Сёлета ў гонках за фатэль бургамістра стартанула трое кандыдатаў. Пераможцам ужо ў першым туры з вялікім адрывам стаў дасюлешні бургамістр Ежы Сірак з 5785 галасамі (67,33%). Прадстаўляў ён ідучы па ўладу ў горадзе і павеце выбарчы камітэт пад назвай «Самаўрадавае паразуменне рэгіёна Белавежскай пушчы». На другім месцы апынулася прадстаўніца Грамадзянскай кааліцыі Ядвіга Дамброўская з 1510 галасамі (17,57%), а на трэцім месцы — Ян Багінскі з ПіС, 1297 галасоў (15,10%). Пяцігадовы тэрмін старога-новага бургамістра на думку многіх малодшых жыхароў горада не прынясе аніякіх зрухаў у эканамічным імпульсе, а будзе толькі адміністраваннем ва ўмовах павольнага адмірання гэтага пушчанскага горада. З кіраваннем не будзе аніякіх праблем па той прычыне, што пераможцамі і ў выбарах у гарадскую раду сталі паплечнікі Ежы Сірака з таго ж самага камітэта. Самаўрадавае паразуменне рэгіёна Белавежскай пушчы ўзяло 12 мандатаў (4413 галасоў; 53,27%), Грамадзянская кааліцыя мае 5 мандатаў (2208 галасоў; 26,65%), а Права і справядлівасць — 4 абранніках (1663 галасы; 20,08%). Затым у Гайнаўцы — без аніякіх перамен.

А для пераможнага камітэта даволі вялікая камфартабельнасць у кіраванні горадам. Ці будуць зроблены новыя выклікі, каб выйсці ўсё ж такі з маразматычнай рэчаіснасці — пагледзім, пабачым.

Напэўна не могуць кіруючыя горадам гаварыць, ці абвінавачваць у будучых, важных рашэннях для ўсяго павета старэства, бо і там гэты ж камітэт выйшаў пераможцам з самаўрадавага змагання.

Гайнаўскі павет падзелены на чатыры выбарчыя акругі: першая акруга гэта сам горад Гайнаўка, дзе можна здабыць аж 8 мандатаў у павятовую раду. Другая акруга — гміны Белавежа, Чыжы, Гайнаўка — 3 мандаты. Трэцяя — Чаромха, Кляшчэлі, Дубічы-Царкоўныя — 3 мандаты. Чацвёртую акругу складаюць гміны Нарва і Нараўка — 3 мандаты. Адным словам за 20 месцаў у павятовай радзе змагалася 113 кандыдатаў з пяці камітэтаў. Структура падзелу мандатаў ясна паказвае, што каб кіраваць паветам, трэба здабыць мандаты перш за ўсё ў самой Гайнаўцы. Справядліва гэта ці несправядліва, хай адкажуць самі радныя, якія могуць патрабаваць змены такога падзелу месцаў. І па чарзе расклад мандатаў у новай радзе: Самаўрадавае паразуменне рэгіёна Белавежскай пушчы — 6 месцаў (6159 галасоў; 32,60%); Польская сялянская партыя — 5 мандатаў (3734 галасоў; 19,77%); Грамадзянская кааліцыя — 2 мандаты (3549 галасоў; 18,79%); Наш павет Гайнаўка — выбарчы камітэт былога старасты Міраслава Раманюка — 2 месцы (3276 галасоў; 17,34%); Права і справядлівасць — 2 мандаты (2173 галасоў; 11,50%). Як бачна, змаганне за павет было даволі напружаным, а толькі метад падзелу галасоў ізноў адыграў сваю ролю. Усім вядома, што камітэт Міраслава Раманюка быў створаны ў апошні момант, як кажуць «без пяці дванаццаць» і гэта стала між іншым прычынай пройгрышу папулярнага сярод гайнавян беларуса родам з Махнатага. Атрымаў ён у Гайнаўцы 800 галасоў, больш толькі ў маштабе ўсяго павета набраў у самім горадзе Багуслаў Лабэндзкі з ПіС — 859 галасоў, вядомы арганізатар маршаў выклятых жаўнераў. Далей найлепшыя вынікі атрымалі: Ян Корч — 712, Ала Грыц — 605, Яўген Сачко — 520, Вольга Рыгаровіч — 477.

У такой сітуацыі кааліцыя завязалася паміж дзвюма першымі пераможнымі групоўкамі. Неафіцыйна гаворыцца, што старастам мае быць Андрэй Скепка — былы дырэктар Гайнаўскага дома культуры. Пабачым, пагледзім ды прачытаем у «Ніве».

Яўген ВАПА

# У Барысаўцы многа робіцца

Нядаўна Аб'яднанне сімпатыкаў вёскі Барысаўка за сваю актыўнасць заняло першае месца ў Падляшскім ваяводстве ў чацвёртым выпуску Алімпіяды вясковай актыўнасці. У мінулым годзе аб'яднанне арганізавала тэматычнае сяло «Барысаўка — драўляная вёска» і стала прымаць арганізаваныя групы дашкольнікаў, вучняў і дарослых асоб, знаёмячы іх з козырамі свайго сяла падчас экскурсій па вёсцы і майстар-класаў у «Двары Мацеюка» і ў святліцы. З лета гэтага года члены аб'яднання, астатнія вяскоўцы і дзеткі рыхтуюцца паказаць пастаноўку «Казкі соўкі з Барысоўкі» і выконвалі рэквізіты да яе сцэнаграфічнага афармлення. Аб'яднанне арганізавала жыхарам свайго сяла вячоркі ў святліцы. У супрацы з уладамі Гайнаўскай гміны арганізавала іншыя мерапрыемствы. Вечарам 9 лістапада жыхары Барысаўкі і суседніх вёсак сабраліся ў вясковай святліцы, каб паслухаць даўніх песень у выкананні дуэта калектыву «Падляшанкі» і паспрабаваць іх спяваць. Калі падчас вячорак «Капэла Батарэя» пачала іграць на народных інструментах музыку з мінулага, ахвотныя пачалі танцаваць.

— У мінулым не было тэлевізараў, тэлефонаў, інтэрнэту, а тым болей усялякіх сацыяльных сетак, па якіх кантактуюцца паміж сабой маладыя і нават старэйшыя асобы. Раней месцамі для непасрэдных кантактаў вяскоўцаў былі лавачкі. На іх ад вясны да восені адбываўся абмен усялякай інфармацыяй. Асобы, якія спатыкаліся на лаўках, прэзэнтавалі там нашу культуру — спявалі песні і нават танцавалі. Цяпер лавак у Барысаўцы засталося мала і людзей, якія на іх спатыкаюцца таксама нямнога. Культурную ролю выконвае ў нас святліца, у якой арганізуем мерапрыемствы, — яшчэ перад сустрэчай заявіў старшыня Аб'яднання сімпатыкаў вёскі Барысаўка Міраслаў Мацяюк.

Даўнія песні ўдала праспяваў дуэт калектыву «Падляшанкі», затым адбылося супольнае спяванне.

— Мы спачатку заснавалі калектыў «Крыўчанкі», паколькі спявала ў нас найбольш жанчын з Крыўца. Калі ён разляцеўся, мы арганізавалі наш калектыў з жанчын з Гарадзіска і паколькі мы жывем пад лесам Белавежскай пушчы, назвалі наш калектыў «Падляшанкі». Выступалі мы між іншым на фестывалях «Беларуская песня» і чатыры разы ездзілі спяваць у Студзівodскім музеі. Думаю, што і сёння мы з Аннай Паўлючук з Барысаўкі, як дуэт ад «Падляшанак», нядрэнна спявалі. Мы ў моладасці збіраліся на вячорках і спявалі песні прымеркаваныя да пор года і сямейных мерапрыемстваў. Гулялі, што сёння таксама зрабілі пад музыку капэлы, — сказала Анна Тэслюк з Гарадзіска.

— Сёння запрашалі мы на вячоркі ўсіх жыхароў Барысаўкі, але на жаль частка засталася дома. Павінны яны шкадавацца, бо сёння пачулі мы нашы прыгожыя даўнія песні, якія заспявалі нам у дуэце Анна Тэслюк з Гарадзіска і Анна Паўлючук з Барысаўкі. Мы таксама паспрабавалі спяваць супольна, — заявілі барысаўчане, якія рыхтавалі пачастунак. Хаця Барысаўка распалажана ў Гайнаўскай гміне, жыхары яе і суседніх сёл размаўляюць на дыялекце, у якога многа прыкмет дыялекту суседняй Нараўчанскай гміны. Туды з Барысаўкі недалёка, калі дабірацца напрасткі праз пушчу і таму моўнае ўздзеянне з напрамку Нараўкі і Семяноўкі тут вялікае.

— У Барысаўцы ўжо многа дамоў пустуе. У вёсцы мала маладых людзей і дзетак. Аднак мы рашыліся не здавацца і ў васьмярых заснавалі Аб'яднанне сімпатыкаў вёскі Барысаўка, арганізавалі тэматычнае сяло, якое назвалі «Барысаўка — драўляная вёска». У нашым сяле многа драўляных дамоў, якія састаўляюць асноўную забудову вёскі. На дамах захаваліся прыгожыя даўнія аздабленні. Забудова Барысаўкі характэрная для планіроўкі вёсак у прошлым, паколькі многія дамы ў нас стаяць сцянамі да вуліцы. Я аднаўляў свой стары дом, каб захаваць даўні лад і так зрабіў з іншымі пабудовамі і панадворкам. Назваў я сваю сядзібу «Двор Мацеюкоў». Заняў ён у 2016 годзе другое месца ў конкурсе на найлепш захаванае драўлянае будаўніцтва, арганізаваным Музеем у Цеханоўцы. Цяпер дом і панадворак паказваю турыстам, — распавядаў старшыня Аб'яднання сімпатыкаў вёскі Барысаўка Міраслаў Мацяюк. Паведаміў ён, што ў аб'яднанні актыўна дзейнічаюць Галена Плева, Галена Сцепанюк, Ева Мацяюк і Івона Міронччук. Тэматычныя вёскі былі заснаваны ў Гайнаўскай гміне ў чатырох сёлах, а працягваюць дзейнічаць у трох. Барысаўка асабліва актыўная ў прыманні арганізаваных груп. У гайнаўскіх школах у мінулым школьным годзе паявілася нават мода прыязджаць на майстар-класы ў Барысаўку, куды ездзіла таксама мая дачка з сябрамі са свайго класа і настаўніцамі. Хаця трапілі яны на дрэннае надвор'е, былі рады майстар-класам і занятакм, якія былі арганізаваны ў рамках дзейнасці тэматычнага сяла «Барысаўка — драўляная вёска».

— Нашае тэматычнае сяло «Барысаўка — драўляная вёска» дзейнічае з мінулага года. Прыязджалі да нас арганізаваныя групы дарослых асоб, але найбольш майстар-класаў мы ладзілі дзеткам гайнаўскіх садкоў і школ, — расказала Галена Плева. — Спачатку ў святліцы разам з дзеткамі рыхтуем цеста на пранікі і выцiскаем іх так, як рабілі гэта нашы мамы ў мінулым. Пазней дзеткі ідуць на вёску, знаёмяцца з драўлянай забудовай і прымаюць удзел у майстар-класах у «Двары Мацеюка». Вярнуўшыся ў святліцу дзеткі з'ядаюць пранікі, якія спякуцца падчас іх адсутнасці, малююць на драўніне і могуць выконваць іншыя ўпрыгажэнні з выкарыстаннем драўніны. Калі надвор'е дазваляе, дзеткі яшчэ пякуць каўбаскі на вогнішчы.



Удзельнікі сустрэчы ў святліцы ў Барысаўцы спявалі даўнія песні.






«Капэла Батарэя» падыгрывала да танцаў

Міраслаў Мацяюк рашыўся, што яго аднаўленая сядзіба, «Двор Мацеюка», будзе выкарыстоўвацца ў дзейнасці тэматычнага сяла «Барысаўка — драўляная вёска».

— Цяпер вучні і іншыя ўдзельнікі нашай тэматычнай вёскі ў маім пабудаваным на даўні лад доме знаёмяцца з яго ўнутраным абсталяваннем. Некаторых вучняў здзіўляе печ, іншых даўнія прылады і мэбля. У маім «Двары Мацеюка» наведвальнікі прабуюць таксама ткаць на кроснах. Дзеткі маюць яшчэ магчымасць перарэзаць кусок драўніны ручной пілой спосабам «твая-мая». Калі мы ідзем у мой двор, я на прыкладзе Барысаўкі расказваю пра драўляную вясковую забудову ў мінулым. Паказваю вучням аздабленні дамоў і распавядаю як зрэзваліся дрэвы, як іх трачавалі і з дылёў будавалі дамы. Расказваю таксама пра прафесіі звязаныя з апрацоўкай драўніны і пра крыжы, якія ў Барысаўцы стаяць па канцах вёскі і ўсярэдзіне. Яны ахоўваюць вёску ад злога. Каля крыжа ў канцы вёскі развітваемся з пакойнікамі. Каля крыжа ў сярэдзіне вёскі молімся, калі святчэннік прыязджае асвячаць яду на стол перад Вялікаднем. Апрача аповедаў пра драўляную забудову ў Барысаўцы, мы расказваем таксама пра іншае важнае ў нашай традыцыі, — распавядаў Міраслаў Мацяюк.

Знаёмства з традыцыямі, даўнімі прафесіямі і драўлянай забудовай Барысаўкі вельмі важнае дзеткам, якія яшчэ выязджаюць на вёску да сваіх дзядоў і там маюць магчымасць папоўніць веды здабытыя ў Барысаўцы. Апрача асноўнай дзейнасці ў рамках тэматычнай вёскі Аб'яднанне сімпатыкаў вёскі Барысаўка арганізуе вячоркі і іншыя мерапрыемствы аднавяскоўцам. З лета гэтага года члены аб'яднання, дарослыя і дзеткі выконвалі рэквізіты для сцэнаграфічнага афармлення пастаноўкі «Казкі соўкі з Барысоўкі».

— Многа мы напрацаваліся рыхтуючы сцэнаграфію для пастаноўкі «Казкі соўкі з Барысоўкі». Цяпер мы пачалі рэпетыцыі, каб паказаць пастаноўку публіцы, — заявіла Галена Плева. Міраслаў Мацяюк дабавіў, што падчас гэтага выступлення ў форме тэатра ценяў у святліцы ў Барысаўцы мае быць прафесійнае асвятленне.

— Мы любіцелі даўніх песень і музыкі. Карыстаючыся традыцыйнымі інструментамі, на якіх у мінулым падыгрывалі да танцаў, выконваем даўнія мелодыі. Прэзэнтуем даўнюю музыку характэрную Падляшскаму і Люблінскаму ваяводствам, дзе ў асноўным жылі палякі, беларусы і ўкраінцы, — расказвалі члены «Капэлы Батарэя», якія падыгрывалі да танцаў на акардэоне, скрыпцы, цымбалах і бубнах.

— Тут прыгожая драўляная святліца і драўляная падлога, добрая да танцаў. Вучым мясцовым даўнім песням і танцам, якія варта захоўваць, — сказала Юліта Харытанюк, бубнач «Капэлы Батарэя», а ў мінулым між іншым член калектыву «Чарамшына» з Чаромхі. Была яна галоўным арганізатарам вячорак у Барысаўцы, а ладзіла іх з дапамогай мясцовых жыхароў.

— Цікава было заспяваць нашы песні, паглядзець даўнія танцы і паслухаць музыку, выконваную «Капэлай Батарэя», — падвялі вынікі першай часткі сустрэчы Галена Плева і Міраслаў Мацяюк. Найстарэйшыя жыхары Барысаўкі пачалі разыходзіцца раней, а маладшыя ўдзельнікі сустрэчы з музыкай і танцамі з Барысаўкі і суседніх Альховай Кладкі і Рэпіскаў засталіся ў святліцы даўжэй, каб яшчэ паспяваць з жанчынамі з Гарадзіска і Барысаўкі і затанцаваць.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

# Быў вялікі збыт на кафлю

**Ян САКАЛОЎСКІ** з Кашалёў у Арлянскай гміне, чалавек пагодлівы і мілы, амаль паўвека прапрацаваў у кафлярні на кіраўнічай пасадзе. Гутарым пра ягонае жыццё.

Фота Міхала МІНЦЭВІЧА



■ Валянціна і Ян Сакалоўскія

**— Як Вы запамяталі сваё дзяцінства?**

— Нарадзіўся я ў 1932 годзе ў Кашалях, у небагатай сям'і. Дзяцінства таксама правёў у Кашалях, са сваімі равеснікамі; было яно беднае, але вясёлае. Дома было нас сем асоб, бацькі, бабуля. Нас, дзяцей, было чацвёра, два старэйшыя браты і малодшая сястра, а ў вёсцы, у маёй кампаніі, шаснаццацёра, з 1930-1932 гадоў. Гэта была наша зладжаная кампанія.

**— Чым гулялі?**

— Мяча не было, але гульні былі, напрыклад, у лапту гулялі, хаця цяжка было купіць той патрэбны мячык; гэта была праблема. Гулялі таксама ў г.зв. клёцкі — стаўлялі драўлянае палена, каля васьмі сантыметраў у дыяметры і каля трыццаці сантыметраў вышыні, і кіямі збівалі яго з адлегласці каля дзесяці метраў. Мы, хлопцы, гулялі таксама ў дзяўчынскія гульні — у класы. А пазней, ужо пасля акупацыі, то сталі гуляць і ў валейбол. Пляцоўку для гэтага мелі каля могілак.

**— Ці Вы запамяталі вялікі пажар Орлі 18 мая 1938 года?**

— Запамятаў. Выйшаў за клуню і ўбачыў дым, прыбег у хату і паведаміў. Там, на месцы, не быў, — прызнаецца, а ў размову ўключаецца жонка Валянціна: — Я мела адзін год, калі наша хата ў Орлі гарэла; жылі мы, дзе Ян Война, па вуліцы Бельскай, хата была з дзвюх палавін.

**— Ці ў тадышні час, пры санацыі, дзеці дапамагалі сваім бацькам?**

— Вядома, гэта быў абавязак. Але гэта ў розных сем'ях па-рознаму ладзілася.

**— Ці быў школьны абавязак?**

— Дома бацькі напэўна змушалі; стараліся, каб закончыць сем класаў. Я давучваўся ў пасляваенныя гады. У школу быў нарыхтаваны ў 1939 годзе, але 1 верасня ўспыхнула вайна. У Орлю завітала савецкая ўлада і школу сарганізавалі недзе ў лістападзе. І пайшоў я ў першы клас, але падгатоўчы. А ў 1940 годзе пайшоў у першы клас, які закончыў у чэрвені 1941 года. Была беларуская мова. І стольکі, бо зараз успыхнула вайна.

Пры немцах школа была, вучыліся. Не ведаю, як аплачвалі настаўнікаў, але былі: Васіль Лашкевіч і яго жонка Барбара, Мікалай Нэстаровіч... вучылі. Не было ніякіх кніжак, не было магчымасці раздабыць сшыткі. То нам дазволілі ўвайсці на гарышча „старой гміны" (па вуліцы Бельскай, дзе зараз Спора) і адтуль мы бралі бланкі розных квітанцый, запісвалі на іх урокі і так вучыліся. Адным з прадметаў была нямецкая мова, якой вучыліся па-беларуску; вучыла нейкая Ларыса са Шчытоў.

**— Ці Вы запамяталі арлянскіх яўрэяў?**

— З жыдамі я вучыўся яшчэ пры саветах; сядзеў з імі за партай. Адзін жыд, Хаім Кручкоўскі быў нават маім добрым сябрам. І такая тоўстая жыдоўка Эва сядзела ў парце са мною. Бо пры саветах саджалі за парты так наперамен дзяўчат з хлопцамі.

**— Ці жыды лепш вучыліся за нашых?**

— Хіба не было розніцы. І памятаю, што жыды не елі свініны. А той калега Хаім, калі мы прыносілі каўбасу, каштаваў яе, а жыдоўка Пэша крычала, што скажа ягоным бацькам.

**— Вайна гэта вялікае перажыванне для дзяцей?**

— Прыгадаю такі момант. Помню, як немцы ўвайшлі ў Орлю ў 1939 годзе. Бегаў я туды, у Орлю. Цэлы рынак быў заняты немцамі, пераважна на матацыклах. Гэта былі элегантныя, файныя людзі. Нас, дзяцей, частавалі шакаладам, „гут, гут" гладзілі нас. Але калі ўжо прыйшлі другі раз у 1941 годзе, то ўжо дзеці ўцякалі ад іх, тады яны здаліся нейкімі страшнымі. Дзеці рэагавалі інакш чым раней. Старэйшых забіралі на прымусовыя работы.

**— Як было ў час вайны ў Кашалях?**

— Калі немцы адступалі, то было трагічна, бо ўся вёска апусцела, усе паўцякалі ў лес. Рускія занялі і казалі: „Уцякайце, бо тут будзе вялікі бой". Мы ўцякалі ў Рудуты; там тое самае. То мы ўцяклі аж у Вітава. Бацька наш быў ужо ў пажылым узросце і не падлягаў пад прызыў.

Пасля фронту цэлая наша вёска была спалена. Трэба было ўсё адбудоўваць. І людзі па-рознаму камбінавалі. Наша хатка ўцалела; яе пабудавалі дзяды калі вярнуліся ў 1921 годзе з бежанства ад Растова. Яны пазнаёміліся ў бежанстве і там пажаніліся. Бабуля паходзіла з Віленшчыны, з каталіцкай сям'і.

І трэба было давучвацца. У 1944 годзе ў Орлі сарганізавалі школу, найвышэйшым класам быў чацвёрты. І я трапіў у чацвёрты клас, а сёмы закончыў у 1948 годзе. Далей трэба было ісці ў Бельск, але ў бацькоў не было сродкаў на ўтрыманне там; такім чынам я астаўся дома. Але ў Орлі настаўнікі і бацькі сарганізавалі нейкім чынам вячаровае адміністрацыйна-гандлёвае прафвучылішча. І я ў 1948 годзе пайшоў у тую школу. У 1950 годзе закончыў другі клас, але школу развязалі і трэцяга класа ўжо не было. Хто хацеў і мог, той прадбужаў навучанне ў Бельску. Мне гэта не ўдалося і трэба было разглядацца за працай.

На першую працу стаў у Гміннай спулдзельні „Samopomoc Chłopska" ў Орлі, кантрактаваў свіней. Трэба было паехаць, заключыць дамову, закальцаваць — выбіць нумар на вуху. Але гэтая праца мне не адпавядала і неяк у 1952 годзе паступіў на працу ў арлянскай кафлярні — Bielsko-Podlaskie Zakłady Przemysłu Terenowego Materiałów Budowlanych. Кафлярня была ў добрым стане, але не было там санітарнай ці тэхнічнай базы. Але прадукцыя ішла. Папрацаваў я там з 13 мая да 18 лістапада 1952 года.

І прызвалі мяне ў Людовае Войска Польскае. Але да гэтага часу прызыўнікі ведалі, што ёсць нейкія рабочыя батальёны. Калі да цябе ёсць нейкія падазрэнні, напрыклад маеш на Захадзе сямейнікаў, то прызывалі ў тыя батальёны. А ў мяне былі ў Амерыцы цёткі. І думаў я, прызнацца ці не, але ў ваенкамаце прытаіў я гэта. У войска накіравалі мяне ў Тэхнічную школу авіяцыі ў Замосці, а ў авіяцыі служба доўжылася тры гады. А я хацеў служыць як найменш. Заязджаю, а там таксама дапытваюць; і я прызнаўся, што маю сямейнікаў за граніцаю. І ў школу не ўзялі. Трапіў я ў адміністрацыйную роту, а там было ўжо шмат такіх — рота „пратрымання". У маі перавялі мяне ў іншую часць, у Эльбланг, у батальён абслугоўвання аэрадрома. У жніўні ўся наша часць перабазіравалася ў Быдгашч. Рэлігія? У тадышніх гадах не было ў войску ніякай рэлігіі, не было ксяндза.

Пасля войска пайшоў я на працу зноў у кафлярню на пасаду рэферэнта па справах інвестыцый. З 1956 года два гады вучыўся ў тэхнікуме будаўнічай керамікі. Калі вярнуўся ў кафлярню, дырэктарам быў Гродзкі і ён паставіў мяне на пасаду майстра. Пасля года назначылі мяне загадчыкам вытворчага аддзела. Дырэктарам быў тады Ілья Агіевіч і ён заангажаваў мяне на пасаду свайго намесніка. У 1963 годзе ажаніўся. Жонка Валянціна, з Орлі, працавала ў кафлярні кнігаводам.

**— Як у тадышніх гадах было са збытам кафлі?**

— Многа кафлі з Орлі бралі Гданьск, Варшава, Кельцы, Люблін, Элк... Быў такі перыяд, што пакупнік браў тавар і не аглядаўся на якасць — толькі грузіць. Пасля ў абыход трапілі іншыя абагравальныя прыборы і тады кафля пайшла на спад. Але і сёння, у 2018 годзе, калі няма кафлярні, кафля яшчэ будзе патрэбная і праз 50 гадоў.

**— Чаму арлянская кафлярня ў канцы перайшла на вытворчасць місачак пад лампадкі?**

— Так атрымалася, магчыма, не па прычыне браку попыту на кафлю ці недахопу гліны, але па прычыне прыбытковасці. На місачках можна было больш зарабіць. Гліна была. Толькі ўсё ішло з вярхоў, у напрамку ліквідацыі, у гэтым была справа. Бо тут, у Орлі, гліна была, толькі трэба было яе ачышчаць ад глею, бо з ачышчанай гліны атрымліваўся лепшы выраб. Прывозілі гліну быццам аднародную, падыходзіла для вытворчасці, але ўсё роўна не была яна такая, як ачышчаная ад глею. І калі ачышчалі, то яшчэ дадавалі крэйду. Гэта быў люкс, а тая аднародная была толькі эрзацам.

**— Недзе ў 1970-х гадах у кафлярні ўзведзена нейкі новы будынак, аднак там не пайшла вытворчасць?**

— Тады здарылася няўдача з печамі, выбух амаль не забіў чалавека ў час запуску печы. Кіраваў запускам інжынер з Беластока і меў шчасце, што пяць мінут да выбуху заглянуў у люк, а калі адышоў печ узарвалася. Эксперыментавалі выпальванне цэглы газам, але пасля выбуху газагенератара пакінулі гэтую задуму. (Пазней у будынку былі склад ды сталярская і кавальская майстэрні — М. М.)

**— Цагельня на Антанове...**

— Цагельню на Антанове побач Орлі пабудавалі недзе ў 1952-1953 гадах. Кафлярня цагельні не будавала, толькі пазней разбудавала. Калі яшчэ цагельні не было, кафлярня была ў складзе Варшаўскага прадпрыемства чырвонай керамікі. А ў Бельску было Павятовае праўленне гмінных цагельняў і арганізаваў гэта ўсё загадчык прамысловага аддзялення Кусьмерэк, прыезджы з Пётркава-Трыбунальскага. Там ён меў уласную цагельню і знаўся на справе. І так — заедзе некуды з лапатай: „Ага, ёсць гліна — будуем цагельню". І ён тут пабудаваў шмат цагельняў, летніх, пад дашкамі: Кляшчэлі, Сакі, Беразова, Хітра, Заблоччына, Антанова, Ягуштова, Глінік, Браньск... Але тыя цагельні існавалі толькі некалькі гадоў. Аднак прыдаліся яны, бо з іх цэглы паставілі многа будынкаў, напрыклад у Браньску ліцэй з бранскай цэглы; калі б не цагельня, то ў іх, пэўна, ліцэя не было б. Матэрыял не найлепшы, але стаіць і будзе стаяць і сто гадоў.

Пасля паўстала Бельска-Падляшскае прадпрыемства будаўнічай керамікі. Многа тых цагельняў паліквідавалі, а асталіся — калі я сюды прыйшоў, цагельні ў Антанове, Кляшчэлях, Саках, Беразове, Дольным каля Гайнаўкі. І тады цагельню Антанова пачалі разбудоўваць, давялі да адносна прыстойнай цагельні.

**— Чаму закрылі Антанова?**

— Цагельня магла б там быць, бо гліна побач была; толькі было імкненне да ліквідацыі. Крыніца ў кар'еры Антанова? Крыніцы былі часта. Ёсць цагельні, што трэба безупынна выпампоўваць ваду.

**— У Орлі побач кафлярні паўстаў бетонны завод...**

— Калі я прыйшоў у кафлярню, то бетонны завод быў у Бельску; яго загадчыкам быў Бурыла з Градалёў. І з Бельска гэты завод перанеслі ў Орлю і далучылі да кафлярні, і выраблялі крыху таго бетону. Але калі пачалі яго разбудоўваць, то ўстанавілі кіраўніцтва прадпрыемства і аддзяліліся. Пачалі рабіць пустаблокі, тратуарныя пліткі, чарапіцу... Буйнейшы асартымент, большы збыт і г.д. І ўзнік завод. Кафлярня асталася пры Кераміцы, а бетонны завод разбудавалі...

**— Як Вам жывецца на пенсіі?**

— На пенсію я адышоў у 1990 годзе. У кафлярні прапрацаваў сорак тры з паловай года. А жыццё пенсіянера? Вясёлае (усмешка), добрае. Патрэб вялікіх ужо няма. Грошай замнога няма, але хапае. Грунт, каб здароўе было.

**— Дзякую за размову.**

Гутарыў **Міхал МІНЦЭВІЧ**

# «Калі што, мы — на сувязі!» — Слава



З аўтаркай у Крынках пачатак верасня 2018 г.

Трыццатага кастрычніка пісаў яму ў інтэрнэце калега, з якім рабілі супольны праект. І першага лістапада таксама. Уладзіслаў Ахроменка, які заўсёды маланкава адказваў на лісты, маўчаў. Ад 29 кастрычніка супрацоўнік Радыё Рацыя маўчаў. Пасля шырокага інфаркту, які ахапіў яго ў Беластоку, рэанімавалі гадзіну а пасля паклалі яго на рэанімацыю. Слава, родам з Гомеля, беларус, чакаў прыезду сваёй жонкі Вольгі і дачкі Лізы з Украіны. З Украіны, дзе жыў з сям'ёй, за якую ваяваў. У Беластоку, дзе хацеў застацца на яшчэ адзін дзень. Застаўся на адзінаццаць, аж да 9 лістапада, калі згас, усё сніўшы сны аб Беларусі, і аж да 15 лістапада, калі развіталіся з ім сябры. Паміналі яго тут як яму спадабалася б, «па-людску», шчыра, у гасцях. Ён так любіў. А пасля паехаў у Мінск, у суправаджэнні рацыйных пазыўных, у мінскі чырвоны касцёл, пасля на Заходнія Могілкі, дзе выбраў месца на свой спачын — каля роднай бабулі Марыі Сазонтаўны.

Слоў не хапае, пісаў ягоны сябра, ілюстратар «Зданяў і пачвараў Беларусі» Уладзімір Сцепаненка. Гэта па малюнках Уладзіміра Сцяпана разгадалі, хто аўтар гэтай першай яго кнігі — той Францішак Хлус, што разам з Марцінам Юрам (Максімам Клімковічам), сваім кумам, напісалі гэту сваю першую супольную кнігу. Распазнаў сябе тамака свежы прэзідэнт Беларусі, які парваўся на бел-чырвона-белы сцяг і свабоду. І пачалі ганяцца за піяністам і журналістам, па ўсім былым «саўку», ад Крыма (дзе жыве яго першы сын Глеб), па ўсенькай Беларусі, перш за ўсё па Гомелі (адкуль ён родам), да Мінска і Баранавіч (дзе неўзабаве нарадзіўся яго сын Кастусь), праз Піцер (дзе Слава кантачыў з рокменамі і іншымі нефармаламі і пісаў пра іх), Маскву (куды Слава пісаў, як Фёдар Бутырскі, Фёдар Волкаў і іншыя свае «камерцыйныя» кнігі ў мільённых тыражах; напісаў і выдаў іх амаль дзвесце загалоўкаў), аж да Чарнігава, дзе, як казаў «выпадкова», сустрэў цудоўную Вольгу і дзе нарадзілася ягоная Лізавета, таксама музычна і літаратурна адораная дачушка. Не, Слава, няма выпадковых сустрэч — дайшлі мы да вываду пасля ўсялякіх жартаў з адным з найлепшых прыяцеляў. На якіх можна разлічваць у нават неверагодных сітуацыях, калі хіба толькі малітва да Усявышняга паможа. А можа якраз Усявышні пасылае нам такіх людзей, без якіх мы можа былі б іншымі, і не ўзнікла б тое, што мела б узнікнуць. Без Славы не было б у мяне знаёмства з кампазітарам Уладзімірам, з якім мы разам стварылі «Дзівасіл» — музычную беларускую казку і іншыя істотныя не толькі для нас творы, не было б Святланы Пузіноўскай і Федзі Волкава ды «маркотнага коціка», вядомага ва ўсёй Беларусі... Не было б і «Дзікага птаха», які лёг на паліцах у Славы і Толіка Сыса.

Не было б і месцаў, як дом на скрыжаванні пяці вуліц у Беластоку, які прытуляў шмат нашых сяброў, і дому на Чарвякова ў Мінску, адкуль у вырайную Беларусь адляцелі Толік і Ала Канапелька, дзе нейкі час жыў і Слава. Колькі начэй мы там прабалбаталі ўтраіх — ці аб нічым? Кожнае наша слова вылілася ў вечнае, як родная кроў. А яна ўсё бурліць. Можа не ў вас, якія быццам бы застылі — ці на гарошкаўскім могілніку пад аграмадным імпазантным помнікам, ці на Заходніх...І няхай на тых помніках застаюцца вашы выкаваныя ў камяні партрэты — вашы твары жывыя ўва мне, і чую перастук вашых жывых сэрцаў. Слоў не хапае, у сэрцы пустое месца. Слоў не хапае, бо колькі ж вы маглі даказаць! Відаць, Госпаду патрэбныя Вы там — асаблівa тыя, хто сёлета адышоў, сніўшы сны аб Беларусі ў нестарыя гады — Міхал, Алесь, Аляксандр, Алесь, Уладзіслаў. І чутачку старэйшы — Анатоль з Пінска.... А гэты лістапад — як кажуць, «найбольш літаратурны месяц» Беларусі, да канца праменіўся сонцам, адабраўшы столькі цяпла з нашай зямлі...

Словы і музыка. Слава і музыка. Лаўрэата нацыянальнага конкурсу маладых выканаўцаў (І прэмія), будучага аўтара між іншым «Муз і свіней» (шорт-ліст да прэміі Гліняны Вялес і лонг-ліст Прэміі Ежы Гедройца ў 2013 г.) прывёў у мой дом ягоны сябра Уладзя Давыдоўскі, з першай «Мроі» — таксама пасля журналіст Радыё Рацыя. Гэта была ранняя вясна 1993 года. Слава проста жыў у мяне, як і многія мае сябры, пачынаючы ад Бажэны, Ёлі, Ані, Элі, пасля «зэсполу Крама, для якіх Міра як мама» і іншых з ваколіц «Басовішча», Саюза пісьменнікаў, «маладзёжнай», «Першацвету», «Тутэйшых», «Паходні»... Тады Слава трапіў на старонкі «Нівы», дзе якраз у той момант быў патрэбны і проста неабходны, і быў на іх паўтара года. І ў малой каляровай, крыху балаганнай кватэрцы сталі ўзнікаць «Здані і пачвары Беларусі». Яны і выйшлі ў 1994 годзе, з малюнкамі пісьменніка і мастака Уладзіміра Сцяпана. Слава дагэтуль быў выкладчыкам музычнай школы, карэспандэнтам часопіса «Крыніца», рэдактарам аддзела часопіса «Бярозка», адказным сакратаром аддзела газеты «Культура». Друкаваўся ў калектыўных зборніках, альманахах і часопісах. Пасля супрацоўнічаў з кнігавыдавецтвамі і кінакампаніямі, пісаў кнігі, рабіў мультфільмы, ставіў драмы, апошнімі гадамі актыўна супрацоўнічаў з Радыё Рацыя. Як пісьменнік працаваў у вострасюжэтных жанрах — дэтэктыў, трылер, альтэрнатыўная гісторыя. Разам з Максімам Клімковічам быў адным з пачынальнікаў у Беларусі жанру кінарамана. Дэбютаваў апавяданнем (1988 г.) у часопісе «Бярозка». Аўтар кніг «Здані і пачвары Беларусі», «Янкі або апошні заезд на Літве» (кінараман, 2007, разам з М. Клімковічам), «Праўдзівая гісторыя Кацапа, Хахла і Бульбаша» (2009), «Тэорыя змовы» (2011), «Музы і свінні» (2014), п'есы «Русалка Камсамольскага возера» (2010, разам з М. Клімковічам)... Працяглы час даследаваў матэрыялы КДБ у архіве Упраўлення СБУ па Чарнігаўскай вобласці, асвятляў лёсы рэпрэсаваных беларусаў. Сярод знойдзеных ім дакументаў ёсць сапраўдныя сенсацыі. Ахроменка вёў рубрыку «На ўліку КДБ» на Радыё Рацыя. Матэрыялы падрыхтаваў на канца 2018 года. Спяшаўся?

Пісаў — пра што думаецца (студзень 2016): «Сяджу ва ўкраінскім Чарнігаве. Рамантую прымус, нікога не краную, іншым разам пераглядаю беларускую стужку ў ФБ і наракаю: не, ну якога хера я нарадзіўся ў гэтай Беларусі? Ну хіба мае бацькі не маглі нарадзіцца якімі амерыканцамі, ці французамі, ці палякамі ці тымі ж украінцамі, дзе няма ані хаўрусу з Ардою, ані галоўнага вусатага хаўрусніка?

А потым прыгадваю сваіх дзядоў, свае гомельскія ды друйскія краявіды, вандроўкі па нашай краіне, сваіх сяброў дый увогуле людзей, якіх бачыў. Ды не, думаю — хай гэта яны нам зайздросцяць. І амерыканцы, і французы, і палякі. Хіба што не ўкраінцы — бо нашы браты. А Арда хай на хер згарыць, і каб унукі Хуйла збівалі ягонымі рэбрамі яблыкі з тае дзічкі, якая вырасце на ягонай магіле. Гэта, напэўна, і ёсць праўдзівыя беларускія талерантнасць і памяркоўнасць». А як пісаў? «Уладзіслаў Ахроменка стварыў бадай што асобны жанр у беларускай літаратуры. Мне нават цяжка вызначыць яму назву. Гэта нейкі сплаў Мрыя, Зошчанкі, Ільфа і Пятрова і нават часопіса «Вожык». Калі абіраць з гэтага пераліку кагосьці аднаго, то відавочна ім будзе А. Мрый, а менавіта ягоны твор «Запіскі Самсона Самасуя». (...) Як сам аўтар на адной з прэзентацый сказаў, што кніга («Тэорыя змовы») разлічана на чытанне ў метро, цягніках і на пляжы. У гэтым сэнсе яна сапраўды адна з першых «ластавак» беларускай масавай літаратуры. Асобныя старонкі рамана чытаюцца з такой жа весялосцю, як і, напрыклад, шэдэўры Ільфа і Пятрова. Некаторыя выразы і словазлучэнні з кнігі могуць стаць крылатымі.

Пытаўся ў яго на Свабодзе Янка Максімюк: «Якую кнігу вам хочацца напісаць?» — «Шмат маіх украінскіх сяброў і знаёмых прайшлі праз АТА. Адзін загінуў, адзін пабываў у палоне. Я не хачу пераказваць усе падрабязнасці таго палону. Скажу адно: былыя савецкія настаўнікі, былыя савецкія бухгалтары і былыя савецкія шахцёры ў кароткі прамежак часу ператварыліся ў вытанчаных садыстаў, пачварных блюзнераў і прафесійных забойцаў. Упэўнены, што такая ж самая жахлівая трансфармацыя гіпатэтычна магчыма не толькі ў Данецку і Луганску, але і ў Віцебску ці Гомелі. Чаму такое магчыма і ці можна гэтаму неяк супрацьстаяць — пра гэта і пішу цяпер раман пад умоўным назовам «Скатабаза». І «калі вы адчуваеце сябе найбольш свабодным?» — **«Заўсёды».**

Што для Славы Ахроменкі Беларусь? Што трэба памяняць? «Калі сказаць каротка, то трэба перш за ўсё пазбавіцца ад афіцыйнага патрыятызму. Ён у выпадку чаго нам не дапаможа. Трэба растлумачыць той самай моладзі, што радзіма — гэта не сцяг над гарвыканкамам і не надпісы на білбордах «я люблю Беларусь». Радзіма — гэта зямля, па якой мы ходзім, гэта магілы нашых дзядоў, гэта наша мова, гэта наша гісторыя, гэта наша школа. Сапраўдны патрыятызм ідзе не ад сцягоў, масавых свят і гопнікаў з півам у руках, ён — сума ўсіх пералічаных складнікаў». Пісаў пра Максіма Клімковіча (на 60 гадавіну): «Максім, пэўна, самы крэатыўны празаік і драматург з усіх, каго ведаю, і працаваць з ім проста ў кайф. Напісалі разам тры мастацкія кнігі і тры п'есы, прытым «Дзве душы» па М. Гарэцкім ужо трэці год ідзе ў Купалаўскім тэатры. А таксама — процьму ўсяго іншага, практычна па Чэхаве — «усё, акрамя вершаў і даносаў»; розныя агульныя праекты ў нас увесь час у вытворчасці.

А яшчэ Максім — мой кум, хросны маёй дачкі Лізы. Разумны, далікатны і неверагодна працаздольны чалавек». — І такі ж ты сам, Слава. Дык падганяй нас, каб мы часу не марнавалі.

Ліза Ахроменка: «Аднавіла ў памяці нашы з табой цёплыя размовы, перачытала нашы перапіскі і ў каторы раз пераканалася, што ты — лепшы. Такога тату трэба яшчэ пашукаць. Я вельмі прасіла цябе, каб ты не паміраў. Я была гатовая да самага дрэннага зыходу, але не да смерці. Гэта ўжо занадта. Татачка, любімы, я спрабую берагчы сябе ад істэрыкі, але як жа балюча засынаць-прачынацца, бачыць тваё фота і разумець, што шанцы нешта выправіць — роўныя нулю, а сам працэс таго, што я думаю пра гэта — забівае. Я думаю, думаю, думаю... вынік адзін — невыносны ком у горле і адсутнасць магчымасці штонебудзь сказаць.

Пакуль ты ляжаў без прытомнасці, я пра многае табе расказала. Я шчыра спадзяюся, што на нейкім непамерным узроўні, з нейкай іншай сферы, нейкім недаследаваным шляхам, ты мяне ўсё ж такі пачуў. Ты мне казаў, што ты заўсёды побач. Я ведаю, што і цяпер, і потым будзеш. Дзякуй за любоў да працы, за ўменне рэальна ўспрымаць жыццёвыя абставіны, дзякуй за тое, што ты выхоўваў ува мне тонкасць і чуласць, дзякуй за тое, што я думаю па-беларуску. Дзякуй за ўсе магчымасці, якія ты мне даў, дзякуй за тое, што развіваў ува мне паняцці аб маральных каштоўнасцях, дзякуй за фарміраванне сілы ў маім характары, дзякуючы гэтаму я — смелая. Дзякуй за тое, што я магу адказваць за свае словы і ўчынкі, за магчымасць ацэньваць сябе, дзякуй за тое, што трэба паважаць усіх, хто вакол цябе, і сябе; дзякуй за сумленнасць, за шчырасць, за праўду, за душу, якую ты ў мяне ўкладваў. ДЗЯКУЙ ЗА ЖЫЦЦЁ, МАЁ ШЧАСЦЕ!» Дзякуем Табе, Слава, за тое, што Ты быў і ёсць

«Сябры, з 27 па 29 кастрычніка я ў Беластоку. Пры гэтым Viber, Skype, WhatsApp і месэнджэр у Facebook застаюцца нязменнымі. Калі што пільнае — на сувязі». Дык, калі ласка, мы не прымаем да ведама, што ты не тут, у нас, на звычайнай зямлі. Будзем разам рабіць штo трэба.

Міра ЛУКША



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Прысяганне першакласнікаў




У Пачатковай школе № 3 з дадатковым навучаннем беларускай мове імя Яраслава Кастыцэвіча ў Бельску-Падляшскім адбылося прысяганне вучняў першых класаў.

— Да ўрачыстасці прыступілі 53 першакласнікі, — кажа намеснік дырэктара школы Ірэна Яблушэўская. — Прысяганне першых класаў — гэта вельмі важны момант у жыцці ўсёй школы. І я гляджу, як перажываюць настаўнікі гэтых малых дзетак, як перажываюць бацькі. Я думаю, гэта апошняе прысяганне, калі няма штандару школы. Ёсць мэта, ёсць праект, мы ўжо пачалі збіраць грошы на штандар. І я думаю, што гэта будзе такое ўмацаванне нашай школы ў асяроддзі. Наша школа атрымае сімвал.

**Давід Гайко**
(за Радыё Рацыя)



# Каротка

Мой бацька мае каня. Конь называецца Каротка. Ён амаль цэлы карычневы, толькі грыва і шэрсць пры капытах чорныя. Я яго баюся? Таму што аднойчы ён мяне амаль не ўкусіў. Я калісьці падышоў блізка да яго, а Каротка хацеў наступіць на маю нагу. Таму зараз трымаюся далёка ад каня бацькі і не дапамагаю яму яго корміць ці забіраць са смуга. Каротка няпоўны год у нас. Часам думаю, што магу яшчэ яго палюбіць. Мару, каб зімою тата зрабіў куліг. У мінулым годзе зрабіў! Бацька запрог у сані Каротку, а я запрасіў сваіх сяброў і мы паехалі на вогнішча ў лес. Большасць з нас упершыню была на кулігу. Тады ўсе зайздросцілі мне Кароткі.

**Міхась СТАНКЕВІЧ**, школа ў Залуках

(Байкі сярэднявечнай Арменіі)

# Малітва купца

Маліўся купец Богу, каб дапамог раздабыць яму сто драмаў.

— Калі дапаможаш прыдбаць сто драмаў, — паабяцаўся, — дык дзесяць адразу я ахвярую на алейнае масла ў царкве.

Бог паслухаў малітву і дапамог гандляру знайсці дзевяноста драмаў:

— Ах, Божа! — узрушыўся купец. — Гэта вельмі мудра з Твайго боку, што ты адразу адлічыў свае дзесяць драмаў на алейнае масла. Як добра, што ты дапамог прыдбаць мне сто драмаў, без дзесяці.

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*

## Эдзі Агняцвет

* * *

Адкрывае школа цуды
Мне і ўсім маім сябрам.
Калі-небудзь, можа, буду
Я настаўнікам і сам.

## УВАГА КОНКУРС! № 47-18

**Над палямі, над лясамі,**
**Над шырокімі лугамі**
**У небе птушкі праляталі,**
**пух бялюткі пагублялі.**
**Снегавыя х.....**

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 2 снежня 2018 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 43: лісце.**
**Узнагароды, наклейкі, выйгралі Эмілька Лянкевіч, Барташ Кіяшко, Губерт Пілецкі з Шудзялава, Кевін Чарнецкі, Дам'ян Карнілюк з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**

№ 47 [25-11-2018]

# «Я — Зміцер Вайцюшкевіч…».

## Інтэрв'ю з артыстам



**— Мы шчыра Вас вітаем у Гайнаўскім белліцэі!**

— Вітаю!

**— Ведаем, што Вы ўжо не першы раз наведалі «Бардаўскую восень». Скажыце, як Вам падабаецца гэты праект? Як Вы сябе адчуваеце на Падляшшы?**

— Я тут як малы сын, які вяртаецца да мамы і таты, на «Бардаўскую восень». Я мо ўжо тысячны раз гасцюю тут у вашых мясцінах, а раз у год трэба прыехаць на «Бардаўскую восень». Гэта такі фестываль, які патрэбны і Падляшшу, і Беларусі таксама, таму што, на жаль, на Беларусі фестывалю з 25-гадовай гісторыяй, як «Барды», няма. Вось у Бельску ён ёсць і ёсць людзі, якія ім апякуюцца, і ёсць артысты, якія хочуць прыязджаць, ёсць таксама канкурсанты, якія вельмі адказна ставяцца да конкурсу і моцна яго перажываюць. Для мяне «Бардаўская восень» як родны дом.

**— Раскажыце нешта пра сябе. Адкуль у Вас нарадзілася любоў да музыкі?**

— Я — Зміцер Вайцюшкевіч. Мне сорак сем гадоў. Калі прыходзіць любоў, ніхто не ведае. Я хацеў спяваць. Мне спадабалася ў школе мая аднакласніца і я спяваў песні для яе. Потым паявілася жаданне іграць на нейкім інструменце. Я трошкі вучыўся ў музычнай школе, а таксама хадзіў у духавы аркестр і іграў на ўсіх інструментах, якія былі. Калі табе дзевяць гадоў, то ты мусіш паспрабаваць усе інструменты: ударныя, кларнеты, трубы. І мы не толькі вучыліся, а проста гулялі з сябрамі гэтымі інструментамі, але гэта было вельмі цікавае. Любоў да гітары нарадзілася пазней. Я маю адукацыю па духавых інструментах ды вакальную. І мне самому сабе захацелася кампанаваць. Нядаўна я пайшоў вучыцца іграць на гітары. Вучаць мяне як правільна ставіць пальцы, як трэніравацца, як рабіць прыгожыя акорды. Гэта мне вельмі падабаецца, таму вучыцца ніколі не позна. Музыку люблю, адкуль памятаю.

**— Як доўга Вы вучыліся іграць на гітары?**

— Думаю, што каб іграць акорды, ды можна вывучыцца і за месяц, а ўжо каб іграць іх віртуозна, трэба часу. З музыкай можна рабіць тэхнічна шмат, але калі ў гэтым душы няма, слухаць нецікава. Няма тады нейкай асаблівасці, няма пранікнёнага адчування ў гэтым працэсе. Музыка мае такое чараўніцтва — магічнае і боскае.

**— Як доўга Вы канцэртуеце? Ці памятаеце сваё першае выступленне перад публікай?**

— Я шмат вучыўся, гэта была сярэдняя музычная школа па класе кларнета і там трэба было выходзіць перад публіку, здаць экзамен. Гэта было страшна, таму што я не адразу стаў такі смелы, вясёлы на канцэртах. Было, канешне, і хваляванне. Зараз трошкі ўжо прасцей. Я афіцыйна 25 гадоў на сцэне.

**— Усе ведаюць, што ў Польшчы Вы маеце многа фанаў. А ці пабываеце і канцэртуеце ў іншых краінах?**

— Фанаў, як мне здаецца, трэба, каб было яшчэ больш. Я не лічыў дакладна, але каля сарака краін свету я праехаў з канцэртамі і фестывалямі. Я быў у ЗША і ў Канадзе, але не быў у Паўднёвай Амерыцы, Афрыцы ды Аўстраліі. Быў таксама ў Еўропе, Расіі і Казахстане.

**— І дзе Вам найбольш падабалася?**

— Мне падабаецца ўсюды, дзе добрыя людзі. Нядаўна я быў у Швейцарыі і мне вельмі там падабалася і зноў туды паеду. Таксама люблю Польшчу. Я бачыў возера Байкал у Расіі — там вельмі прыгожая і маляўнічая прырода.

**— А ці ў Вас ёсць свая любімая песня? Раскажыце нам пра гэта.**

— Як кажуць артысты ці выканаўцы, што песні гэта як дзеткі. У асноўным усе прыгожыя, але бываюць — як сказаў адзін кампазітар — удалыя і няўдалыя. І адказваючы, лепшую песню я яшчэ не напісаў. Ёсць іх каля двух соцень і з кожнай з іх звязаны нейкія ўласныя перажыванні. Мастацтва патрэбна, каб зафіксаваць нашу прысутнасць у часе. Я пісаў калісьці песню на верш Уладзіміра Някляева «Бывай, Яблонская, бывай» і тады я моцна гэта перажываў, бо мы рассталіся з маёй дзяўчынай. І дзе цяпер гэтая дзяўчына, і колькі часу ўжо прайшло, а песня будзе нагадваць пра гэты стан жыцця, калі гэта адбылося. І гэта цікава.

**— Шчыра дзякуем за размову. Нам было вельмі прыемна з Вамі сустрэцца.**

*Гутарылі:* ***Уршуля Марчук і Патрыцыя Лапінская***
*Гайнаўскі белліцэй*

*Аўтаркі і Зміцер Вайцюшкевіч*



## Польска-беларуская крыжаванка № 47-18

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 43-2018:**

Лінк, бал, пуга, на, лес, месяц, клоўн, ядро. Лянок, яна, моц, леў, песня, буся, шаг, цар, лак.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Вікторыя Залеўская, Бартэк Гоф, Сара Марціновіч** з Орлі, **Кевін Чарнецкі** з Бельска-Падляшскага, **Каміль Мартонік, Патрыцыя, Бартэк Рудзінскі** з Залук, **Эмілька Аніськевіч, Дамініка Юроўчык, Ігар Тарасевіч** з Шудзялава, **Давід Сурэль** з Арэшкава. Віншуем!

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Kolędnik / Kat | | | | | | | | | Maskarada / Obibok | | Tak |
| | | | | | Arena | | Bierz | Fundusz | | | |
| Ogród / Temat | | | | | Szal | Ulana | Wymiana | | | | As |
| Osa | Stop | | Łom / Jedzenie | Szumówka / Koledż | | | | | | | |
| | | | Kolanko | | | | | | | | |
| Nos | | Kalendarz / Sam | | | | | | | | | Syn |
| | | | Lina | | | | | Czas | | | |
| Pasieka | | | | | | | No | | I | | |
| | Między | | | | | Prysznic | | | | | |

# Пра пасляваеннае жыццё **Лукаша Дзекуць-Малея** ў Польшчы (невядомы беластоцкі перыяд)

## (ч.II)

Сярод дакументаў Міністэрства публічнай бяспекі знаходзіцца ўручную пісаны рапарт „o zatwierdzeniu kandydata na werbunek”[55]. Завербаваны бяспекай меўся быць Л. Дзекуць-Малей. Дзеля гэтага гадамі збіраліся на яго кампраметуючыя матэрыялы, у якіх даказвалася яго супрацоўніцтва з немцамі яшчэ перад Другой сусветнай вайной і кіраўніцтва «фашысцкай» арганізацыяй украінскіх нацыяналістаў (ОУН) у акрузе Брэста. У сувязі з тым, што ён быў павязаны з галоўным актывам баптысцкага руху ў Польшчы, сярод якога бяспека не мела вартаснай агентуры, вырашыла яго зацвердзіць на кандыдата. Дзеля гэтага, каб яго завербаваць, было вырашана назіраць за ім, сабраць здымкі, падчас размовы з ім дамагчыся яго прызнання да фашысцкай дзейнасці яшчэ ў міжваенны перыяд і падчас нямецкай акупацыі, загадаць напісаць жыццяпіс. Прадбачваючы, што не напіша ў ім праўды, прапанавалася шахаваць яго, даказваючы на аснове сабраных кампраметуючых матэрыялаў яго варожую і няшчырую пазіцыю ў адносінах да органаў бяспекі: «W wypadku, gdyby kandydat nie przyznawał się do wrogiej roboty, a starał się ujmować swoją działalność w czysto religijne formy, nadmienić mu, że nie jesteśmy ze względu na jego wiek zainteresowani w unieszkodliwieniu go, ale warunkiem podstawowym jest jego szczere przyznanie się do wszystkiego i ujawnienie wszystkich osób, które w przeszłości i obecnie prowadzą wrogą działalność, nadmieniając mu przy tym, że posiadamy dostateczne dowody, aby go sądzić i w konsekwencji pozostałe lata spędzi w więzieniu. O ile i ten manewr nie poskutkuje, uważam, że należy kandydata zatrzymać”[56]. Гэты рукапіс, на жаль, не датаваны і не падпісаны выразна, але паказвае ўсю ісціну зацікаўленняў Л. Дзекуць-Малеем з боку службы бяспекі.

У кастрычніку 1951 г. у справе «Д» Ваяводскай управай публічнай бяспекі ў Беластоку быў завербаваны яшчэ адзін інфарматар «Кропка» — сябра Л. Дзекуць-Малея яшчэ з міжваеннага часу[57]. 20 студзеня 1952 г. інфарматар «Небескі» дакладваў, між іншым, што ў Беласток Л. Дзекуць-Малей быў запрошаны пасля двух гадоў працы ў Гданьску, дзе вернікі аказалі сваё незадавальненне ў адносінах да яго асобы. Падобная сітуацыя мела месца і ў Беластоку: «i tam ta sprawa pokierowała się tak, że wiele z członków zboru wyrażają niezgodę na jego dalszy pobyt. Do tego czasu nie znaleziono mieszkania dla niego w Białymstoku i dlatego rodzina jeszcze mieszka w Gdańsku przy kaplicy, a on co miesiąc dojeżdża do nich. O ile członkowie w Białymstoku większością głosów wypowiedzą się przeciwko niemu, to zostanie stamtąd odwołany i możliwie pozostanie w Gdańsku, gdzie dzieci kształcą się i pracują”[58].

У пачатку 1952 г. сітуацыя ў беластоцкім зборы была далей вельмі напружана. Інфарматары «Белы», «Шчыры» і «Грэбень» звярталі ўвагу, што далей існуе непаразуменне членаў збору з Л. Дзекуць-Малеем і яго прыхільнікамі. 12 студзеня у кватэры Рыгора Краснапольскага сабралася 10 баптыстаў, каб вырашыць, што зрабіць, каб Л. Дзекуць-Малей пакінуў беластоцкі збор. Пастанавілі, што справа яго адхілення будзе пастаўлена на сходзе збору ў прысутнасці прадстаўніка Галоўнай рады. Выбралі трох дэлегатаў (Здановіч, Тындзік, Краснапольскі) і вырашылі выслаць іх да яго з прапановай, каб пакінуў ён Беласток. 13 студзеня пасля набажэнства падышлі яны да Л. Дзекуць-Малея і Станіслаў Здановіч сказаў яму, што нягледзячы на багаты вопыт, дрэнна вядзе збор у Беластоку: «W tym momencie podskoczył do Zdanowicza Andrejczuk Antoni zwolennik Dziekuć-Maleja i nie dał mu dalej mówić. W związku z tym w kaplicy powstał szum i zamieszanie oraz oburzenie na D.M.”[59]. 17 студзеня 1952 г. у Беласток прыехалі Аляксандр Кірцун і Ян Адлыжка з Галоўнай рады баптыстаў, якія разглядзеўшы скаргі на Л. Дзекуць-Малея не адхілілі яго ад пасады прапаведніка. На пасяджэнні Рады збору 18 студзеня Аляксандр Кірцун сказаў: «Dziekuć-Maleja od razu odwołać nie można, gdyż zbór białostocki może się rozdwoić i dlatego niechaj Dziekuć-Malej pozostanie nadal przewodniczącym zboru. Przy wyborze nowej Rady Zborowej i przewodniczącego ktoś będzie z Rady Naczelnej i tę sprawę załatwi”[60]. Выбары новай Рады збору вызначылі на 13 лютага. Аднак з рапарту Ваяводскай управы публічнай бяспекі невядома, ці яны адбыліся. «Белы» і «Шчыры» інфармавалі, што 19 лютага 1952 г. Л. Дзекуць-Малей аформіў пропуск у памежную зону і да 25 лютага прабываў у вёсках Зубры і Ганчары на Беласточчыне, дзе быццам бы служыў набажэнствы сваім вернікам[61]. У рапарце сцвярджалася таксама, што „Dziekuć Malej w każdym wypadku i zawsze unika rozmów na tematy swojej przeszłości i nikt z członków Białostockiego zboru baptystów nie wie dokładnie o jego przeżyciu. Z nikim nie chce rozmawiać o swojej przeszłości i w ogóle stara się całkiem nie poruszać tematów politycznych. Członkom zboru baptystów nigdy nie mówi gdzie on wyjeżdża i w jakim celu, a gdy go zapytają członkowie o to, więc mówi, że to ich nie obchodzi, straszy ich Urzędem Bezpieczeństwa i Prokuraturą, mówiąc że jeżeli nie przestaną interesować się jego osobą, będzie musiał zameldować do U.B. lub Prokuratury”[62].

Відаць уплывы і аўтарытэт Л. Дзекуць-Малея сярод баптыстаў у Беластоку быў значны, калі пры супрацыве некаторых яго ворагаў і дзейнасці бяспекі не здолелі яго адхіліць ад пасады прапаведніка яшчэ летам 1952 г. Паводле інфармацыі бяспекі «Rada Zborowa w/w sekty na posiedzeniu postanowiła ostatecznie dać do 18.VIII.52 r. termin, aby Dziekuć Malej opuścił Białystok i o tym specjalnym listem zawiadomili Radę Naczelną P.K.Ch. Baptystów w Warszawie, która wyraziła zgodę i poparła wniosek. Nawet członek Rady Naczelnej Andres powiedział, że b. dobrze postąpiliście i po upływie tego terminu jeśli Dziekuć Malej nie wyjedzie z Białegostoku, to Rada Naczelna wystosuje pismo do władz w Białymstoku, aby go nie liczyli kaznodziejem w zborze białostockim i że on jest odwołany z Białegostoku. Dziekuć Malej Łukasz dowiedziawszy się o powyższym postanowieniu Rady Zborowej, postanowił rozbić zbór białostocki i odłączyć się od Rady Naczelnej. W tym celu obecnie prowadzi agitację wśród przychylnych sobie członków w/w sekty jak: Andrejczuka, Iwaniuka i innych”[63]. Л. Дзекуць-Малей не пагаджаўся з адхіленнем яго Галоўнай радай, толькі дамагаўся склікання сходу ўсіх членаў збору[64]. Зараз на аснове даступных дакументаў цяжка сказаць, як у канцы справа вырашылася. З агентурнага даносу «Небескага» з красавіка 1954 г. вынікае, што «już jako kaznodzieja nie ma wzięcia w zborach i dlatego teraz jest na utrzymaniu kościoła, ale bez żadnego zboru, lub obowiązku. Odwiedza zbory, jeśli go zaproszą i odpoczywa. Jest chory na cukrzycę i często siedząc na posiedzeniu zasypia. W sprawie nie bierze udziału w wypowiedziach lub dyskusjach. Nieznana mi jakakolwiek działalność poza religijną”[65].

Тады ўжо не жыла жонка Л. Дзекуць-Малея — Сэрафіна, якая памерла 18 лютага 1953 г. Ён сам памёр 20 студзеня 1955 г. Апошнія гады жыцця Л. Дзекуць-Малея былі вельмі складанымі. Праз увесь час быў ён пад пільным наглядам органаў бяспекі. Найбольш крыўдным было тое, што ў сваім акружэнні братоў і сясцёр баптыстаў меў таксама даносчыкаў, часам давераных, яшчэ даваенных сяброў. Аднак шмат хто з ягоных сяброў засталіся вернымі яму на ўсё жыццё, нягледзячы на складаныя пасляваенныя часы. Захаваная ў Інстытуце нацыянальнай памяці карэспандэнцыя Л. Дзекуць-Малея да сваёй жонкі — Сэрафінчыка, сведчыць пра яго загартаванасць у жыцці і веры. Яго глыбокая вера ў Бога і адданасць яму дапамаглі перажываць усе жыццёвыя складанасці і нягоды. 24 ліпеня 1951 г. пісаў з Беластока ў Гданьск да сям'і: «Proszę bardzo wszystkich bądźcie dobrej myśli. Jeden drugiego szanujcie, kochajcie, miłujcie, albowiem tylko z Bożą pomocą pozostaliśmy żywymi na tym świecie. (...) Jak że ty mój Serafinczyk? Trzymaj się nie masz prawa osłabnąć. Musimy nabierać nowych sił moja kochana. Przyciskam cię do mego zbolałego serca ciebie i wszystkich moich drogich Dinusieczaka, Lilusieńkę, Serafineczkę, Edeczka i wszystkich przyjaciół i nieprzyjacieli pozdrawiam życząc Bożego błogosławieństwa. Naprzód śmiało, patrząc na zbawcę Jezusa Chrystusa”[66].

У навагоднюю ноч з 1951 на 1952 г. Л. Дзекуць-Малей пісаў да сям'і ў Гданьск: „Już ostatni dzień 51 r. Ile przeżyliśmy moi ukochani i we wszystkim nam dopomagał nasz dobry Pan Bóg. On swoją miłością okazał w synu swoim Jezusie Chrystusie w naszym pielgrzymowaniu na tej biednej ziemi. (...) Jeżeli Bóg pozwoli, to prędko będę mieć choć nieduży, ale osobny kąteczek, gdzie będę mógł spokojnie czytać, pisać i pogłębiać się w Jego Piśmie Świętym, aby wspólnie dzielić się z Narodem Bożym. Będziemy mocno łączyć się w modlitwach, albowiem Pan Boh ten nam blisko i daleko. On zawsze usłyszy nasze prośby i nasze wołanie Psalm 37, 1-20. Wiem i wierzę, że wszystko przeminie i ten świat, a to co jest Boże, będzie wiecznie trwać”[67]. Як бачна, у яго лістах поўна надзеі і веры ў Бога. Як добрым быў чалавекам сведчаць і іншыя захаваныя лісты, у якіх запрашалі яго наведаць са словам божым розныя мясціны.

Лукаш Дзекуць-Малей (1888-1955)

**Лена ГЛАГОЎСКАЯ**

---

55 Тамсама, с. 198, (К. 108): Raport o zatwierdzeniu kandydata na werbunek.
56 Тамсама, с. 200, (К. 109).
57 Тамсама, с. 202, (К. 111): Charakterystyka obiektu krp. „Beduini” /sekta baptystów za okres 1.X.51 r. do dnia 31.XII.1951 r./. Białystok, dn. 8.I.1952 r. Ściśle tajne.
58 Тамсама, с. 204, (К. 113): Doniesienie agenturalne dn. 20.I.52 r. Źródło: „Niebieski”. Ściśle tajne.
59 Тамсама, с. 205, (К. 114): Charakterystyczne fakty i zmiany w sytuacji politycznej na poszczególnych obiektach i środowiskach. Po linii baptystów. Białystok styczeń 52.
60 Тамсама, с. 206, (К. 115).
61 Тамсама, с. 208, (К. 117): Wojewódzki Urząd Bezpieczeństwa Publicznego w Białymstoku. Raport o przebiegu agencyjnego rozpracowania. Białystok, dn. ......1952 r.
62 Тамсама.
63 Тамсама, с. 210, (К. 119): Informacja.
64 Тамсама, с. 210, (К. 120): Wyciąg z ag. doniesienia źr. „Kropka” z dn. 16.VII. Ściśle tajne.
65 Тамсама, с. 216, (К. 124): Agenturalne doniesienie z dn. 2.IV.54 r. Warszawa 25.VI.1954 r. Źródło: „Niebieski”.
66 Тамсама, с. 251, (К. 33): Ł. Dziekuć-Malej. Białystok, Kraszewskiego nr. 11 do Serafiny Dziekuć-Malej, Gdańsk-Siedlice, ul. Gen. Dąbrowskiego 11. 24.7.51 r. Białystok.
67 Тамсама, с. 272, (К. 55): Ł. Dziekuć-Malej. Białystok, Kraszewskiego 11 do Serafiny Dziekuć-Malej, Gdańsk Dąbrowskiego Nr. 11. 31.XII.51. Białystok.

# Юбілей вяртання незалежнасці

**У Беластоку, так як і ў іншых польскіх гарадах, была ўрачыста адзначана сотая гадавіна абвяшчэння незалежнасці Польшчы. Спярша адбыліся малебны ў чатырох храмах, а затым агульная ўрачыстасць на Рынку Касцюшкі перад помнікам Юзафу Пілсудскаму.**

Ужо ў пятніцу, 9 лістапада адбыўся малебен у мячэці пры Асяродку мусульманскай культуры ў Беластоку. З афіцыйных асоб прысутнічаў там прадстаўнік прэзідэнта Беластока. Былі таксама вайсковыя сцяганосцы. Спярша вядучая расказала пра ролю мусульман у Польшчы; адзін з іх ліку быў блізкім супрацоўнікам маршалка Пілсудскага. Пасля адбыўся ўласцівы малебен, спярша на мове Прарока, затым на польскай мове; адслужылі яго два імамы.

У нядзелю, 11 лістапада, з самай раніцы былі адслужаны малебен у беластоцкім Свята-Мікалаеўскім саборы. З афіцыйных асоб былі падляшскі ваявода Багдан Пашкоўскі, падляшскі віцэ-маршалак Мацей Жыўна, віцэ-прэзідэнт Беластока Збігнеў Нікітаровіч, прадстаўнікі сілавых службаў. Сабралася таксама шмат народу, у царкве стала рабіцца цесна і пропаведзь слухаў я ўжо навонкі. Вось рэзюмэ яе:



■ У мячэці

Незалежнасць лёгка зразумее той, хто яе страціў. Яе брак можа адчуць таксама і той, хто сам ад яе адмовіўся. Найцяжэй зразумець яе тым, якія не перажылі зняволення, але якіх стан грамадскай незалежнасці з'яўляецца прыроднай нормай. З біблейскай перспектывы незалежнасць гэта адмова залежнасці ад іншых і добравольнае крочанне за аўтарытэтам. Калі Адам і Ева страцілі сваё месца ў райскім агародзе і пакінулі Эдэм, тады адкрыліся ім вочы і са слёзамі ўспомнілі страчанае. Імкненне да вяртання страчанай незалежнасці гэта шлях людзей Старога Запавету. Гэта чаканне вяртання да Бога, які суцяшае людзей абяцаннем Абетаванай зямлі. Гэтая зямля становіцца мэтай, ідэалам, да якога кіруюцца чарговыя пакаленні. Народ, які не мае ўласнага лапіка зямлі, які паломнічае пасярод іншых народаў і марыць пра абяцаную Богам незалежнасць, пачынае цаніць вартасць незалежнасці. І просьбы да Бога становяцца просьбамі і малітвамі ўсіх тых, якія і ў наш час шукаюць спакойнай гавані. Такім жа чынам нашы продкі перажывалі страту ўласнай незалежнасці. Раздзелы Польшчы давялі да таго, што пражываючыя тут людзі страцілі пачуццё ўласнай бяспекі, уласнай незалежнасці і тоеснасці. Сотая гадавіна вяртання Польшчы незалежнасці гэта хвіліна, якой чакалі пакаленні патрыётаў і паўстанцаў, звычайных грамадзян і простых заўзятараў супольнага дабра. Яны дацанілі раней страчаную незалежнасць, ушанавалі раней аднятую свабоду, узрадаваліся пачуццём раней таптанай годнасці. 11 лістапада 1918 года гэта дзень, калі польскі народ уступіў у сваю Абетаваную зямлю, гэта месца, да якога імкнуўся, дом, які раней быў яму забраны. Гэты дзень стаў днём гонару і радасці. Стаў ён адначасна днём, з якога пачынаецца перыяд самастойнасці і адказнасці за грамадскасць, для якой Польшча айчынай. Сузіраючы гісторыю абранага старазапаветнага народа заўважаем засяроджанне над вяртаннем страчанай зямлі. Гэты ціск стаў галоўным стымулам дзеяння ўладароў, святароў, прарокаў і ўсяго грамадства. Імкненне да авалодання Абетаванай зямлёй аб'яднала структуры абранага народа; народ аб'яднаўся. Падобны механізм можам заўважыць пасля стагоддзяў і ў нашай краіне, які ў пачатку XX стагоддзя кансалідаваўся вакол ідэі вяртання незалежнасці і самастойнасці. Мусім аднак звярнуць увагу на падзеі, якія адбываліся пасля вяртання Польшчы незалежнасці. Вось ідэя, якая рухала патрыятычныя думкі, заклікала да дзеяння, споўнілася. Дзеянні па вяртанні незалежнасці закончыліся паспяхова. Ці тыя фактары, якія ў час зняволення дапамагалі захаваць уласную тоеснасць, якія вылучалі сваіх і чужых, якія засяроджваліся на вяртанні ўласнага фрагмента зямлі, ці не напоўнілі сэрцаў суайчыннікаў занадта шчыльна, ці асталося месца для рэфлексіі над тым што далей, калі вернутая свабода стане рэальнасцю, ці будзе патрэбная рыторыка, якая заклікае да захавання ўласнай незалежнасці. Вывучаючы Свяшчэннае Пісанне заўважаем новае навучанне, якім Збаўца напаўняе Новы Запавет, на якім збудаваны фундаменты Хрыстовай супольнасці. Збаўца паказвае новую Абетаваную зямлю, якая не будзе адно незалежным лапікам зямлі, але стане нябесным Іерусалімам, духовай сталіцай. Сёння з перспектывы ста гадоў незалежнай Польшчы можам сказаць, што наш народ дабіўся свабоды і яе дацаніў, захаваў яе чарговым пакаленням і перадаў памяць пра тыя складаныя хвіліны, калі незалежнасць здавалася страчанай назаўсёды. З перспектывы Хрыстовага навучання ведаем, што нам незалежнасць павінна быць адным з этапаў, якія праходзім, імкнучыся далей да ідэалу духова-цялеснай супольнасці, людзей і Бога, жывых і памерлых, усіх тых, якіх стварыў Бог. Калі не імкнемся да гэтай-мэты, спыняемся ў палове дарогі, абіраючы сабе сродак за канчатковую мэту. Калі ксенафобнае стаўленне дазваляла захаваць тоеснасць у час зняволення, то ведаем, што не павядзе яно далей у час незалежнасці. Можна жыць у незалежнай дзяржаве і адначасна жыць мінулым, можна жыць у свабодзе і аддавацца ўспамінам няволі. Можна аднак абраць іншы напрамак і адкрыцца на будучыню. Абетаваная зямля была дадзена для большага дабра, а не дзеля таго, каб задаволіць толькі актуальныя спадзяванні. Незалежнасць гэта прызванне. Першыя гады незалежнай Польшчы гэта час, калі не ўсе зразумелі, што змаганне ўжо закончылася. Праца над інтэграцыяй перад пагрозай прычынілася, што не ўсім грамадзянам нашай краіны прызнана была поўніца належных ім правоў. З перспектывы праваслаўнага грамадства незалежнай Польшчы не ўсе маглі пачувацца яе паўнапраўнымі грамадзянамі. І хаця станоўчае імкненне да незалежнасці павінна было прынесці станоўчыя вынікі, аднак у першых гадах незалежнасці дзейнічалі яны для выключэння і стыгматызацыі часткі грамадзян. Рыторыка змагання з захопнікамі расцягнулася не толькі на захопнікаў, але і рыкашэтам закранула таксама гістарычных грамадзян уласнай дзяржавы. Такім чынам ідэя свабоды і незалежнасці вяла да палярызацыі польскага грамадства ў незалежнай дзяржаве.

Набажэнства адбылося таксама ў пратэстанцкім храме. Паколькі, аднак, яно супала ў часе з каталіцкім набажэнствам, то мне прыйшлося абраць прысутнасць на апошнім. Аднак народу ў Фарным касцёле было столькі, што я астаўся навонкі яго, гэтак жа як і раней навонкі кафедральнай царквы. У касцёле таксама прагучала пропаведзь. Вось яе рэзюмэ:

11 лістапада 1918 года споўніліся мары цэлых пакаленняў палякаў. Пасля 123 гадоў няволі і ўпартай русіфікацыі і германізацыі Польшча вярнула незалежнасць. Сёння адзначаем гадавіну вяртання незалежнасці. Але для нас, палякаў, гэта свята адраджэння, гэта дзень, калі многія з нас разважаюць, як калісь людзі змагаліся за свабоду і незалежнасць нашай Айчыны з вялікай ахвярнасцю, ахвяроўваючы дзеля гэтага цэлае сваё жыццё. Не калькулявалі, не раздумвалі ці варта, але ахвяроўвалі ўсё. Яны, ахвяроўваючы жыццё, маладасць, таленты, дружбы, знаходзілі сабе дом незалежнай Айчыны, Айчыны сваіх жаданняў, у якой яны і чарговыя пакаленні змаглі б жыць і мірна развівацца. Сёння выказваем гэтую радасць з вернутай Айчыны, найлепш, як можам выказаць. Хаця складана акрэсліць слова Айчына, бо кожнаму з нас можа быць нечым іншым і абазначаць зусім рознае, то аднак тая Айчына, Польшча, з'яўляецца домам, з'яўляецца месцам на зямлі, месцам нараджэння, месцам узрастання, месцам пазнання польскай мовы, месцам укаранення таго ўсяго, што складае Польшчу. Айчына гэта зямля, на якой мой народ перажыў сваю гісторыю, неадназразова складаную і балючую, поўную пакут і ахвяр, але часта як жа прыгожую і поўную славы, якою мы ўсе ганарымся. Айчына гэта таксама польскі краявід, то родны дом, магілы продкаў, традыцыі і абычаі, кшталтуючыя яе культуру, гэта ўспамін дзяцінства і гадоў маладосці, гэта родная мова, на якой маці вучыла мяне першых слоў, але таксама і слоў пацераў і слоў малітвы Богу. Сабраліся мы на нашым урачыстым набажэнстве, каб падзякаваць Богу за нашу Айчыну, за дар веры і свабоды, каб прасіць у Яго асаблівага бласлаўлення нашай краіне і ўсім палякам. Як жа сёння не выказаць удзячнасці за гэты вялікі дар? Гэтая ўдзячнасць становіцца ўдзелам кожнага чалавека без аглядкі на сваё палітычнае стаўленне, без аглядкі на веравызнанне, без аглядкі на сваё грамадскае паходжанне. Гэта доля кожнага з нас. У сотую гадавіну вяртання незалежнасці дзякуем добраму і міласціваму Богу за заваяванае, але і за вымаленае пакаленнямі палякаў вызваленне нашай Айчыны. Няхай наша Айчына заўсёды будзе супольным домам грамадзян, кожнага і кожнай з нас, няхай будзе асаблівым дабром будучых пакаленняў. Молімся, каб усе палякі вылучаліся любоўю і справядлівасцю, добрасумленнасцю і ахвярнасцю, пашанай іншым і клопатам за супольнае дабро, асабліва за тое дабро, якім з'яўляецца вольная і незалежная Польшча.



■ У царкве

На Рынку Касцюшкі, перад Фарным касцёлам і помнікам маршалку Пілсудскаму збіраліся тысячы і тысячы беластачан. Ад арганізатараў юбілейнага мерапрыемства атрымлівалі яны бела-чырвоныя сцяжкі. Панаваў узнёслы і ўрачысты настрой. Людзей не адпужвала халоднае надвор'е. Магчыма, што гэтае надвор'е спрычыніла некаторым такі ж рэзультат, як і мне — прыхварэў я грыпам. Пра грып згадка тут невыпадковая. Бо сёлета спаўняецца таксама стагоддзе адной з найбольшых пандэмій у гісторыі чалавецтва — эпідэміі грыпу 1918-1919 гадоў. Вікіпедыя: „Іспанскі грып, або «іспанка» быў, хутчэй за ўсё, самай масавай пандэміяй грыпу за ўсю гісторыю чалавецтва. У 1918-1919 гадах (18 месяцаў) ва ўсім свеце ад іспанкі памерла прыблізна 50-100 млн. чалавек або 2,7-5,3% насельніцтва Зямлі. Было заражана каля 550 млн. чалавек, або 29,5% насельніцтва планеты. Эпідэмія пачалася ў апошнія месяцы Першай сусветнай вайны і хутка пераўзышла гэта найбуйнейшае кровапраліцце па колькасці ахвяр. Назва «іспанка» з'явілася выпадкова. Так як ваенная цэнзура ваюючых бакоў падчас Першай сусветнай вайны не дапускала паведамленняў аб пачатай у арміі і сяродк насельніцтва эпідэміі, то першыя весткі аб ёй з'явіліся ў друку ў маі-чэрвені 1918 года ў нейтральнай Іспаніі". Мне, у ходзе змагання з гэтай хваробай, прыйшло на думку, што і яна таксама, побач згадванага змагання герояў, трапляючы ў акопы ваюючых бакоў, паўплывала на іх абяссіленне і новае палітычнае кшталтаванне пасляваеннай Еўропы. Але пра гэты яе аспект цяпер цішок, быццам яна і цяпер астаецца пад цэнзурай...

Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

Лёс беларусаў Беласточчыны

# Згадка пра Антанюкоў і Красоўскіх

**1.**

Зноў еду ў Дзятлава, зноў шукаю сляды беларусаў-рэпатрыянтаў з Беласточчыны. Многіх ужо няма ў жывых, але жывуць іх дзеці, унукі, праўнукі.

У самым вялікім шматпавярховым доме, які дзятлаўчане жартам называюць „тытанікам”, жыве Іван Антанюк з жонкай. Бацькі Івана Антанюка родам з Беласточчыны з Сакольскага павета. Назвы вёскі Іван не памятае. Пасля вайны, па словах Івана, яго бацька Уладзімір Антанюк і маці Філімера Кастусік, заехалі ажно ў Цюмень. Бацька быў праваслаўны, а маці — каталічка. Брат маці застаўся ў Цюмені, а бацька прыехаў на Дзятлаўшчыну, бо тут шмат жыло перасяленцаў з Беласточчыны.

Калі Антанюкі прыехалі на Дзятлаўшчыну, то спыніліся ў вёсцы Цяцейкі. Гэта 6 кіламетраў ад чыгуначнай станцыі Наваельня, куды прыязджалі з Беластоцкай зямлі многія беларусы. У Цяцейках Уладзімір Антанюк пачаў працаваць брыгадзірам.

На Дзятлаўшчыне ў сям’і Антанюкоў нарадзіўся яшчэ адзін сын Аляксандр.

працяг ☞


Уладзімір Антанюк


Іван Антанюк са здымкам бацькі


Уладзімір Красоўскі



Творчыя людзі бываюць розныя. Для адных, каб нешта тварыць, патрэбна нейкая аддаленасць ад навакольных, нейкая самотнасць. А для іншых наадварот, патрэбна кола падобных на сябе аднадумцаў, якія як крыніцы падсілкоўваць сваёй энергіяй і думкамі. Для апошніх існуюць так званыя творчыя майстэрні, дзе яны могуць не толькі паразмаўляць на цікавячыя іх тэмы, але і зрабіць нешта разам. За цяперашнім часам такіх творчых прастор стала даволі многа, напрыклад, у беларускай сталіцы. Праўда, не ўсе яны прэзентуюць сябе пабеларуску. Адной з тых, хто выкарыстоўвае беларускую мову хаця б на ўласным сайце, з’яўляецца мастацкая майстэрня 6В. Каб крыху бліжэй з ёй пазнаёміцца, варта зайсці на сайт у інтэрнэце, які размешчаны па адрасе **http://6bmm.by**.

Варта адзначыць, што дадзены сайт выраблены па-сучаснаму і лёгкі ў навігацыі. Выйсці на нешматлікія рубрыкі месяцца ўверсе цэлага выяўлення на яркай жоўтай палосцы, з якой у вочы кідаецца напісаная чорным назва майстэрні. Пры гэтым практычна ўсе рубрыкі можна прагледзець, нават не клікаючы на іх назвы, толькі прагартаўшы мышкай выяву галоўнай старонкі.

„6В — гэта ўтульная прастора якая аб’ядноўвае майстэрню і кавярню. Мы праводзім рэгулярныя курсы малюнка, ілюстрацыі, слухаем лекцыі пра мастацтва”, — коратка распавядаюць пра сябе ўладальнікі майстэрні на старонцы „Пра нас”.

Майстэрня праводзіць разнастайныя курсы па выяўленчым і прыкладным мастацтве. Такія, напрыклад, як навучанне лінагравюры, фармальнай кампазіцыі, гравюры на кардоне, выраб татэмных масак з пап’е-машэ. „Кароткі аднадзённы курс уключае распрацоўку эскіза і выразанне яго на лінолеуме, ручны друк гравюры. Мы можам наносіць адбіткі на паперу і тоўсты кардон, тэкстыль. Лінарыты цудоўна выглядаюць на тканіне — бярыце майкі і торбы — будзе прыгажушчы аўтарскі прынт на доўгую памяць!” — распавядаюць майстры лінагравюры.

„Фармальная кампазіцыя — грунтоўна важны курс для дызайнераў, ілюстратараў, мастакоў і тых, хто задумаў імі стаць! Мы ўпэўненыя, што кампазіцыя — гэта аснова асноў і падрыхтавалі курс Фармалкі, каб тэарэтычна і практычна патлумачыць фундаментальныя законы пабудовы выявы”, — агітуюць уладальнікі мастацкай прасторы патэнцыйных кліентаў. Курсы ў 6В платныя.

Ніжэй за прэзентацыю курсаў мы можам пабачыць, так бы мовіць, твары мастацкай майстэрні. Праўда, іх усяго тры — Ксенія Лагавая (чалавек, адказны за творчы бардак), Стася Сакалоўская (найлюбімейшы выкладчык і душа мастацтва) і Вольга Палескава (вясёлы геній дызайну і фармальнай кампазіцыі). Да кожнага фотаздымка дадаецца гіперспасылка на партфоліа гэтых асоб.

Паглядзець, як „ва ўтульнай і прасторнай майстэрні праходзяць заняткі па лінагравюры, ілюстрацыі і малюнку, вясёлыя вечарынкі і кінапаказы”, мы можам, „зайшоўшы” ў рубрыку „Галерэя”, на якую вядзе асобная гіперспасылка. Там прадстаўлены фотаздымкі творчага працэсу. У той жа час некаторыя з іх месяцца і на галоўнай старонцы сайта.

На жаль, нельга сказаць, што віртуальнае прадстаўніцтва 6В цалкам дапрацаванае. Так, уверсе цэлага выяўлення знаходзіцца выйсце на рубрыку з загадкавай назвай ITALIA 2018!. Аднак, калі клікаеш на яе, то адкрываецца зусім пустая старонка.

❖ **Аляксандр ЯКІМЮК**

## Дата з календара

Дата з календара Дата з календара Дата з календара Дата з календара



Падзеі і асобы БНР

# 120 гадоў з дня нараджэння Язэпа Вількоўшчыка

Беларускі паэт і публіцыст Язэп Вількоўшчык (сапраўднае прозвішча Вількоўскі) нарадзіўся 19 лістапада 1898 г. у вёсцы Гавенавічы (Слонімскі павет, цяпер Падгорная, Баранавіцкі раён). У сям’і Вількоўскіх было яшчэ чатыры сястры і брат, але брат загінуў у Першую сусветную вайну. Маці нідзе не працавала, даглядала дзяцей, а таксама дапамагала мужу, які трымаў сваю прыватную невялікую краму. Усім адукацыю Вількоўскія даць не маглі, таму найбольш хваляваліся за сына Язэпа, які хацеў вучыцца.

Калі пачалася Першая сусветная вайна, рускія казакі выгналі сям’ю Вількоўскіх, як і тысячы іншых беларусаў, у глыб Расіі ў бежанства. Вількоўскія трапілі ў Казанскую губерню. Там Язэп скончыў школу і паступіў у Казанскі медыцынскі інстытут. Сродкаў на вучобу і пражыванне не ставала, таму беларускі юнак падпрацоўваў у розных канторах. То грузчыкам, то па-мастацку распісваў сувеніры, то пісаў плакаты і афармляў стэнды. На пачатку 1920-х гг. сям’я Вількоўскіх пастанавіла вярнуцца на Бацькаўшчыну. Язэп пакінуў медінстытут і разам з бацькамі вярнуўся на Слонімшчыну.

Атрымаўшы пэўную адукацыю ў бежанстве, ён шмат чытаў, спрабаваў сам пісаць вершы і байкі на рускай мове. У 1927 г. адзін з вершаў па-руску ён адаслаў у „Беларускую крыніцу”, але верш не надрукавалі, а маладзёну параілі пісаць па-беларуску. Далей Язэп паехаў у Вільню, дзе скончыў бухгалтарскія курсы. У час вучобы пазнаёміўся з беларускімі выданнямі, з творчай беларускай інтэлігенцыяй. Магчыма, пасля курсаў ён пэўны час працаваў бухгалтарам у Вільні. Зноў спрабаваў пісаць, але ўжо на роднай мове.

У пачатку 1930-х гг. Язэп Вількоўскі вярнуўся на Слонімшчыну. Там ён зышоўся з творчымі людзьмі — літаратарамі, мастакамі, музыкантамі, але палітыкай не займаўся. У 1937 г. у Дзятлаве была створана літаратурная суполка „Маладая Ускалось”. На першым з’ездзе прысутнічалі Аляксандр Бяленка, Алена Лябецкая, Алесь Крыга, Язэп Вількоўшчык і іншыя. У кнізе „Рабінавы хмель”, выдадзенай у Мінску ў 2009 г., Сяргей Хмара паведамляе, што пасля вайны Язэп Вількоўшчык быў знішчаны супрацоўнікамі КДБ. Але насамрэч — не. Язэпа Вількоўшчыка сталінскія рэпрэсіі абмінулі. Як яму ўдалося пазбегнуць арышту — застаецца загадкай.

Свае паэтычныя творы Язэп Вількоўшчык пачаў друкаваць у заходнебеларускіх выданнях у пачатку 1930-х гг. Асабліва плённымі для яго былі 1932-1934 гг. Пісаў лірычныя вершы і байкі.

Перад Другой сусветнай вайной сям’я Вількоўскіх пераехала ў Слонім. Дзе працаваў Язэп Вількоўскі і кім перад вайной ды ў час вайны — невядома. Але ў кастрычніку 1944 г. ён уладкаваўся на 9-ю дыстанцыю службовага пуці станцыі Слонім-Брэст-Літоўскі на пасаду бухгалтара канторы. На чыгуначнай станцыі Слонім Язэп Вількоўскі адпрацаваў 7 гадоў і даслужыўся да пасады намесніка начальніка па кадрах. Потым працаваў бухгалтарам на Слонімскім лесазаводзе, у Слонімскай арцелі „Вторпром”, потым зноў на чыгунцы, адкуль і пайшоў на пенсію.

Па ўспамінах сына — Андрэя Вількоўскага, на пенсіі бацька займаўся гаспадаркай. У вольны час вельмі любіў гуляць у шахматы са сваім старэйшым сябрам Ігнатовічам. Выпісваў шмат газет і часопісаў, адгадваў розныя шахматныя камбінацыі і дасылаў у рэдакцыі газет.

Пражыў Язэп Вількоўшчык 86 гадоў, яго не стала 18 сакавіка 1984 года. Пахавалі паэта на слонімскіх гарадскіх могілках.

❖ **Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

Ён з сям'ёй жыве ў вёсцы Дварэц на Дзятлаўшчыне. Але браты між сабой не размаўляюць. Спадзяюся ў бліжэйшы час сустрэцца і з Аляксандрам Антанюком. Магчыма ў яго хатнім архіве зберагаюцца бацькавы беластоцкія дакументы і фотаздымкі.

Іван Антанюк паказаў мне толькі бацькаў адзін фотаздымак. Я перафатаграфаваў гэты здымак і зрабіў фота Івана Антанюка са здымкам яго бацькі ў руцэ.

**2.**

Уладзіміра Красоўскага застаць у выхадны дзень дома не ўдалося, бо у выхадныя ён любіць праводзіць у сваім гаражы. Там у яго не толькі гараж, але і склад. У гаражы мужчына заўсёды нешта робіць, габлюе, чысціць, майструе. У гаражы я і спаткаўся са спадаром Уладзімірам, дзе мы пагутарылі пра Красоўскіх з Беласточчыны. Шмат цікавага спадар Уладзімір мне распавесці не змог, бо мала ведаў. Сказаў толькі, што яго дзед Аляксандр Красоўскі быў родам з вёскі Малешы Вышкаўскай гміны. Дзед быў жанаты з Надзеяй Клачко. У іх сям'і ў Малешах нарадзіўся сын Мікалай, дочкі Ніна і Вольга. Мікалая Красоўскага ўжо няма, а Ніна жыве ў Слуцку, Вольга — у Баранавічах.

Калі ў Малешы ў 1939 годзе прыйшла савецкая ўлада, Аляксандр Красоўскі стаў працаваць падаткавіком. Працаваў да пачатку Другой сусветнай вайны. А пасля вайны вельмі баяўся розных бандытаў. Ён стаў хавацца ад польскіх бандаў, бо тыя не любілі тых, хто пры савецкай уладзе быў актывістам ці начальнікам. Хаваўся доўга. Але потым жыць у Польшчы стала цяжка і сям'я пераехала на Дзятлаўшчыну. Праўда, родны брат Аляксандра, Сямён Красоўскі, застаўся жыць у Малешах, ён нікуды не паехаў. Пасля вайны некалькі разоў Красоўскія наведвалі родныя мясціны, але даўно ўжо там ніхто не быў.

Па словах Уладзіміра Красоўскага, у яго дзеда быў яшчэ адзін брат Іван. Але ён выехаў далёка ў Расію і жыў у Ханты-Мансійскай нацыянальнай акрузе. Пра яго сям'ю Уладзімір амаль нічога не ведае.

Калі мы развіталіся, я сфатаграфаваў у гаражы Уладзіміра Красоўскага — бацькі і дзяды якога былі родам з Беласточчыны.

Тэкст і фота
**Сяргея ЧЫГРЫНА**

# ЗАПРАШЭННЕ

Маем гонар запрасіць Вас на супольнае святкаванне
30-годдзя Беларускага аб'яднання студэнтаў,
якое было афіцыйна зарэгістраванае
29 лістапада 1988 г.
Юбілей пройдзе 8 снежня 2018 г. у гатэлі «Лесьны» ў Беластоку,
Алея Яна Паўла II, 77. Пачатак у 16:00.




У праграме:

- Гісторыя БАСу ў архіўных фільмах
- Гістарычны нарыс дзейнасці БАСу
- Прысваенне ганаровага сяброўства БАСу
- Успаміны, супольныя спевы
- Пачастунак*

Просім пацвердзіць сваю прысутнасць да 24.11.2018 г. па мэйлу basbiuro@gmail.com
*кошт удзелу ў мерапрыемстве 40 зл. (зала і пачастунак)
Кантакт з арганізатарамі: Юліта Тымашэвіч (+48 519-607-184),
Лідка Пякарская (+48 662-076-428).

# Чаромхаўскі «Сеніёр+»

Клуб «Сеніёр+» узнік па ініцыятыве былых членаў Польскага саюза пенсіянераў і інвалідаў у Чаромсе.

— Не будзем плаціць членскіх узносаў хітрунам, якія не дазваляюць карыстацца нам банкавым рахункам і як жабрак прасіць міласціны на кожную імпрэзу ў дырэктара Гміннага цэнтра культуры, — канстатавалі аматары танцавальных вечарынак. — Арганізуем незалежную арганізацыю. Самі будзем гаспадарамі.

Як сказалі, так і зрабілі. Важаком ініцыятыўнай групы стаў Здзіслаў Закшэўскі, мясцовы скульптар, вопытны арганізатар культурных мерапрыемстваў, душа калектыву. У кампаньёны ўзяў Мікалая Чэркаскага. І дуэт напарнікаў узяўся за работу. Апрацавалі статут арганізацыі і план працы. Вялікую арганізацыйную дапамогу атрымалі ад дырэктара ГАК Барбары Кузуб-Самасюк. Вось асноўныя напрамкі дзейнасці Клуба «Сеніёр+»: супрацоўніцтва з падобнымі арганізацыямі ў суседняй Беларусі ды з іншымі адукацыйнымі і культурнымі ўстановамі, актывізацыя культурнай дзейнасці, арганізацыя культурных мерапрыемстваў, у тым ліку танцавальных вечарын, папулярызацыя турызму і спорту, арганізацыя краязнаўчых экскурсій ды адпачынку, інтэграцыя розных віду груповак шляхам супольнага дзеяння ды іншае. У пачатках Клуб «Сеніёр+» налічваў каля дваццаці чалавек. Прыбываюць чарговыя члены. Навінкай чаромхаўскага клуба з'яўляецца тое, што ўдзельнікі не плацяць членскіх узносаў. Так рашылі пры арганізацыі клуба і так запісана ў статуце. Фінансавыя сродкі будуць здабываць перш за ўсё шляхам рэалізацыі еўрасаюзных праектаў і рознага віду мерапрыемстваў, а таксама з самаўрадавай дапамогі. І хоць клуб заснаваны тры месяцы назад, дык паспеў наладзіць супрацоўніцтва з беларускім партнёрам. 13 верасня г.г. старшыня Здзіслаў Закшэўскі з Мікалаем Чэркаскім падаліся ў Камянец, дзе сустрэліся з прадстаўнікамі Камянецкага тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва. Вынік перагавораў аб партнёрскім супрацоўніцтве і добрасуседскіх адносінах пасрпыяў падпісанню дамовы на пяцігадовы тэрмін. З беларускага боку дакумент падпісала дырэктар Камянецкага цэнтра Алена Шаблінская, з боку Клуба «Сеніёр+» Здзіслаў Закшэўскі і Мікалай Чэркаскі. Чаромхаўскіх гасцей вельмі сардэчна прынялі ў Камянецкім райвыканкаме, сарганізавалі ім святочнае застолле.

— Гэта быў сапраўдны банкет, — сказаў Здзіслаў Закшэўскі. — Такога прыёму мы не спадзяваліся. У адказ мы запрасілі камянецкіх сяброў да сябе ў госці. Пахадайнічалі затым аб візы.

Чарговая сустрэча адбылася 10 лістапада ў Гмінным асяродку культуры ў Чаромсе, напярэдадні стагоддзя Незалежнасці Польшчы. Але аб гэтым у наступным допісе.

**Уладзімір СІДАРУК**

# 25.11 — 01.12

**(22.03. — 20.04.)** 25-27.11. вельмі пільнуй сваіх рэчаў, бо хутка могуць змяніць уласніка. 26-28.11. удасца табе наладзіць кантакты, якія ў будучыні прынясуць плён у працы ці супрацоўніцтве. 27-30.11. вельмі дбай аб здароўе сваё і блізкіх. У вочы можа табе заглянуць прывід фінансавых страт, але з крызісу выкараскаешся, толькі не давярай кожнаму і не ўлазь у падазроныя інтарэсы.

**(21.04. — 21.05.)** 25-30.11. твая ўпартасць і моцная воля прынясуць плён. 28-30.11. не ідзі да цырульніка, бо не будзеш рады выніку стрыжкі ці ўкладкі. На працы ўсё ўдасца, ды не дзякуючы шчасцю, а добрай падрыхтоўцы. Рашэнні вельмі трапныя, а задумы вельмі прыбытковыя. Паправа адносін з шэфам. Падумай, ці не спалучыць хобі з працай.

**(22.05. — 22.06.)** 26-28.11. заараНжуюцца інспіруючыя сустрэчы з уплывовымі людзьмі. Але 25-27.11. Меркурый будзе цябе правакаваць да зласлівасці. 26-30.11. партнёр можа на цябе напасці без дай прычыны. Весткі з далёкіх старон лепшыя чым спадзяешся. На працы 24-26.11. трэба будзе поўнасцю заангажавацца і нават застацца «па гадзінах»; трэба будзе кончыць праект, які «палажыў» хтосьці іншы. Затое можаш спраўна скінуць пару кілаграмаў.

**(23.06. — 23.07.)** 25-30.11. дакажаш сваю непахіснасць і адвагу. Рэляцыі, якія моцна ў апошні час скаланулі твае пачуцці, 28-30.11. могуць увайсці ў рашаючы этап. Можаш нават запланаваць уцёкі з вязаў. У сям'і пазбягай спрэчак. Калі хранічна хварэеш, будзе больш праверак і медабследаванняў. Ракі з першай дэкады могуць прыхварэць грыпам або атруціцца. Не еж нічога хоць крыху папсаванага!

**(24.07. — 23.08.)** 24-28.11. удачы ў інтарэсах. Але 26-30.11. будзеш лішне пабуджаны; не дай сябе справакаваць ворагам! Можа тады быць і нялёгкі час у пары. Нават звычайнае планаванне наступнага дня можа кончыцца гарачай сваркай. На працы можаш страціць занятак, але не турбуйся — 26-28.11. выйдзе на тваё, дастанеш шанц выказацца ў вельмі важным праекце, а ўсе размовы, таксама аб павышэнні, кончацца поспехам. Але запануй над выдаткамі, правер рахункі, бо можа плаціш за штосьці, чым не карыстаешся.

**(24.08. — 23.09.)** 26-28.11. дасканалы клімат для вучобы, курсаў, здавання экзаменаў. Хаця да канца месяца Меркурый можа прытармазіць твае планы; мусіш быць цярплівым. Калі плануеш свой інтарэс, 26-28.11. можа прыйсці табе ў галаву задума на вельмі прыбытковы бізнес. Але не будзь лішне самаўпэўнены. Засяроджвайся на тым, што тут і цяпер. Еж садавіну і пі сокі, але да поўдня.

**(24.09. — 23.10**.) 26-28.11. пачуеш штосьці мілае на сваю тэму. Хаця 25-27.11. могуць прытрапіцца цяжкія негацыяцыі і непрыемныя размовы. На працы дасканалыя рэляцыі з супрацоўнікамі, у выпадку нейкай несправядлівасці знойдзеш саюзнікаў. Новую працу можаш знайсці дзякуючы знаёмым. Але 28-30.11. чакаюць цябе непрадбачаныя выдаткі, якія могуць спустошыць твой кашалёк. Дбай аб вушы і насавыя пазухі, насі шапку.

**(24.10. — 22.11.)** Цягнуцца да цябе большыя грошы. 25-30.11. наладзіш карысны і працяглы саюз. 27-30.11. пільнуйся ад апёкаў і парэзаў. Не бяры на сябе чужых праблем. Магчымая моцная крытыка тваіх дзеянняў (25-27.11.). 24-28.11 вялікае шчасце і выйгрышы — іграй у латарэю і іншыя гульні!

**(23.11. — 22.12.)** 24-28.11. плануй найважнейшыя фінансавыя рашэнні; цяпер табе шчасце спрыяе як ніколі — смела зайграй у латарэю! Добра ў фінансах і на працы. Хаця твае дзеянні будуць моцна крытыкавацца (25-27.11.). Кантактуйся з дзецьмі. Больш ангажуйся ў працу, відаць павышэнне. Інвестуй і ў сваю асобу, вывучай мовы, сучасныя тэхналогіі.

**(23.12. — 20.01.)** Цяжкія, але неабходныя рашэнні. Настроі і эмоцыі паўплываюць на ацэнку сітуацыі. 24-26.11. непрыхільныя каментарыі. На пераборшчвай са свабодай, бо будуць паслядоўнасці 26-30.11. Але 25-30.11. дакажаш, што моцны з цябе гулец на прафесійным і фінансавым рынку. У выпадку інфекцыі ідзі да лекара!

**(21.01. — 19.02.)** 24-28.11. больш грошай або прывілеяў. 28-30.11. будзе цябе карціць сягнуць па забаронены плод. 26-28.11. можаш пачуць прызнанні аб каханні або просьбу аб тваю руку. Можа паявіцца прапанова, якую нельга адкінуць; гэта можа лучыцца з выездам за мяжу. Не пераборшчай з заняткамі на паветры.

**(20.02. — 21.03.)** Добрыя нагоды. Удалыя парадкі, рамонты. 26-28.11. будзеш прымушаны да публічнага выступлення; добра падрыхтуйся. Хтось з блізкіх атрымае прыбытковую працу, што цябе схіліць таксама да пошукаў. Моцна наробішся, але вынікі таксама будуць віднымі. 27-30.11. можаш без прычыны выбухнуць. Лячыся перш за ўсё хатнімі спосабамі — мёд, часнок, паласканне горла вадой з соллю ці содай.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Адгаданка

Адгаданка Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. порт у Йемене = 23 _ 22 _ 27 _ 6 _;
2. асілак, велікан = 12 _ 34 _ 35 _ 36 _37 _;
3. верхні, урадлівасны слой зямлі = 1 _ 18 _ 19 _ 20 _ 21 _;
4. першы гук музычнай гамы = 5 _ 4 _;
5. асобны провад кабелю або крывяносны сасуд = 26 _ 30 _ 14 _ 13 _;
6. самка казла = 16 _ 15 _ 33 _ 32 _;
7. партнёрка кума = 10 _ 9 _ 8 _ 7 _;
8. куст вярбы, вінаграду = 3 _ 11 _ 31 _ 38 _;
9. эдэм = 24 _ 25 _ 28 _;
9. персідскі манарх = 29 _ 2 _ 17 _.

(ш)

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
| | | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 |
| | | | | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 |
| 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 |
| 31 | 32 | | 33 | 34 | 35 | 36 | 37 | 38 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 43 нумара**

Айва, востраў, Ева, пацук, удача, цешча, чай, шах, яда.

Рашэнне: **Пад авечай шкурай хаваецца часта воўчая душа**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Мірослава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 300 egz.

# Пайшла па святых месцах і аздаравела





Вера Кірылюк верыць, што Божая Маці паставіла яе на ногі. Яе прызнанне пачую пад святым дрэвам у Грушцы. Тут вяртаецца духовая раўнавага, адплываюць боль і страх перад інваліднасцю, які налёг на душу пасля дарожнай катастрофы.

— Я прабачыла таму чалавеку, не судзілася, не дабівалася грошай, — кажа. — Ён жа не хацеў такога...

Тады, пасля выхаду з бальніцы, ахвяравалася хадзіць па святых месцах. Цешыў яе кожны крок, кожная дэталь, што прыводзілі да аздараўлення. Кожны дзень перад сном малілася Богу і Божай Маці, каб дазволілі ёй устаць раніцай і рабіць справу. Праўда, калі пайшла за голасам сэрца, не ведала, што будуць клеймаваць і вінаваціць яе ў недарэчных правінах. Але для жанчыны, якая выйшла з чорнай немачы, не было калі глядзець на зачэпкі і плёткі. Місія, перад якой сама сябе паставіла, патрабавала рашучасці, сілы і шчасця.

Кінуць усё, заплюшчыць вочы на патрэбы людзей — такога не магла дапусціць. У вачах мроілася тая немач і параліч, якіх перамагла, дзякуючы святой прысязе.

* * *

У дарожную катастрофу патрапіла 29 сакавіка 2006 года. Сем гадоў раней, пасля 42 гадоў працоўнага стажу, пайшла на пенсію. Не хацела сядзець у хаце. Любіла працу ў лабараторыі, дзе вызначала якасць малака. У той дзень, калі здарылася катастрофа, спяшала яшчэ ў Радзевічы. Яе маці даходзіла да здароўя ў шпіталі. Праз некалькі дзён лекары абяцалі выпісаць дамоў.

— І я хацела прыбраць у хаце, — успамінае, — памаляваць сцены. Каб мама лепш сябе адчувала ў адноўленай хатцы...

Якраз з Вярховіч адпраўлялі малако ў Берасце. Вера Мікалаеўна села ў машыну і ехала ў бок Радзевічаў. Памятае, як развіталася з шафёрам і з пакетамі ў руках апынулася на абочыне дарогі. На дварэ ўжо пацямнела. Раптам нешта ўдарыла ззаду. Далей не памятае. Некалькі дзён ахінала яе густая цемра. Здавалася, усё знаходзіцца на абочыне дарогі, побач хаты маці... Хоча ісці. Там жа трэба прыбраць, маляваць сцены. Аднак ногі не слухаюцца, млеюць рукі. Яна не можа ўзяць пакеты, якія адкаціліся ад дарогі і ляжаць у рове. Дзесьці між мроямі чуе чужыя галасы. Гэта лекары гаварылі пра яе: *Шкада жанчыны, яшчэ не такая старая...* Яна таксама шкадавала сябе, плакала бязгучным голасам і сухімі слязамі. Кожны ж жыць хоча. Пасля вярнулася свядомасць, але балючая немач не пакінула. Пашыбаваў угару ціск і знікаў пульс. Вера Мікалаеўна баялася падняцца з ложка. Хапіла ступіць некалькі крокаў, каб згубіць прытомнасць і ўпасці на зямлю. «Ці гэта такі канец прыйшоў?» — думала яна. Каму яна, нямоглая інвалідка, будзе патрэбнай?

— А на суседняй койцы ляжала жанчына, — прыгадвае мая субяседніца, — яна ўсё хадзіла туды-сюды і шэптам паўтарала: *Вера ўстань! Вера ўстань!*

* * *

Каб запісаць расказ Веры Кірылюк, я была вымушана прыехаць яшчэ раз у Вярховічы. Сустрэла яе на могільніку, дзе разам з нанятым работнікам ставіла помнік маці. Жанчына не магла пакінуць працы, таму мы дамовіліся на сустрэчу ў яе хаце, у Каленкавічах.

З вуліцы на панадворак вяла брамка-тунэль, спавітая вінаградам са спелымі гронкамі. Вера Мікалаеўная чакала ў сваёй прасторнай, прыхарошанай сямейнымі здымкамі і вышыванкамі хаце.

— Добра, што гэтую хату паставілі да маёй катастрофы, — кажа.

Я не ведала што сказаць на такую красамоўную заўвагу, але гаспадыня сама дапоўніла недаказанае.

— Бо ведаеце, сёння сказалі б, што яна за царкоўныя грошы...

Вярховіцкая царква, калі параўнаць яе з навакольнымі парафіямі, жывая і задбаная. Побач старых ікон, прыдбаных з неіснуючых ужо капліц, тут новыя элементы інтэр'еру і іконы. Як манументальная ікона Еўфрасінні Полацкай. Царкву, як скажа старасціха, старанна адмалявалі хімікі, то-бок вязні, якія адбываюць пакаранне каля Вярховіч.

Спачатку пытаю пра здарэнне, ад якога жыццё Веры Мікалаеўны пайшло царкоўным шляхам. Зараз яна кожны дзень даязджае на аўтобусе ў царкву, каб там пільнаваць і наводзіць парадкі. Гэта дзякуючы ёй я пабачыла сярэдзіну цэркваў у Грушцы і Вярховічах.

— Я не ведаю прозвішча той жанчыны, якая хадзіла каля майго ложка ў шпіталі і гаварыла: *Вера ўстань!* Яна паходзіла здалёк, дзесьці ажно ад Іванава. Клікалі яе Марыя. Яна хадзіла ў хустцы, па-вясковаму. Гэта ўсё, што памятаю пра сваю цаліцельку. А жаль! Кожны дзень мне хочацца сказаць ёй добрае слова, падзякаваць. Бо ў канцы канцоў я выграблася з немачы і ўстала з ложка. Ступіла на ногі. Іду на кухню, па калідоры... А яна радам, за мной... Прайшліся, вярнуліся да койкі і яна мяне ўзяла за руку і пытае:

— Вера. А ты хадзіць хочаш?

— Хачу. Моцна хачу.

— То цяпер ты перажагнайся тры разы! — загадала.

Вера Мікалаеўна старанна выканала загад Марыі і перажагналася тры разы, а тая ёй абвясціла спакойным голасам:

— Ты прысягнула перад Богам і Святым Духам, што будзеш хадзіць па святых месцах!

«Пайсці па святых месцах», значыць, закасаць рукавы і фізічна працаваць у карысць царквы, аднаўляць запушчаныя месцы, вяртаць ім добрую славу.

Пасля першай прысягі жанчына зноў загадала Веры Мікалаеўне тры разы пераждагнацца. І калі тая выканала просьбу, Марыя, бясспрэчным тонам абвясціла ёй:

— А цяпер ты прысягнула, што за сваю працу і ахвяраванне не возьмеш ні аднаго граша.

Вера Кірылюк не зусім разумела, што адбываецца з ёй, але адчула моц прысягі, паверыла ў абяцанне жанчыны. Ды адразу пасля выхаду са шпіталя кінулася чысціць могілкі ў Вярховічах.

* * *

Нарадзілася ў 1944 годзе. Два месяцы да яе нараджэння бацьку мабілізавалі на фронт. Вярнуўся інвалідам, з перабітай рукой. Рана не хацела гаіцца, нарывала. Памятае боль, нервы і крык. Пасля таго, як загналі іх у калгас, ледзь зводзілі канцы з канцамі. Ёй, найстарэйшай з дзяцей, прыйшлося збіраць каласы на калгасным полі. Малолі ў жорнах, гатавалі на вадзе зацірку. У чатырнаццаць гадоў кінула школу і пайшла з маці даіць кароў у калгас. Хацела аблегчыць долю маці, дапамагчы пракарміць пяцёра дзяцей і хворага бацьку. Вера не думала тады пра сябе. Прачыналася ў пяць раніцы і бегла з маці на ферму. Кароў даілі тры разы ў дзень.

— Тады ж не было даілак, кароў даілі рукамі, — кажа.

Даяркай працавала ажно дзевятнаццаць гадоў і сем месяцаў. Пасля адмовіўся арганізм, абарвалася нырка. Доўгі час ляжала ў шпіталях. Ёй было тады трыццаць тры гады.

Гляджу на партрэт мужа ў вайсковай форме, выстаўлены на прашклёнай сценцы.

— А як вы пазнаёміліся? — пытаю.

— У клубе, на танцах, — кажа Вера Мікалаеўна. — У мяне былі вялікія грудзі. Ён заглядзеўся і ўжо не адпускаў мяне ад сябе. Казаў, што нідзе не бачыў такіх. Бо калісь, — прыгадвае з усмешкай жанчына, — калі вялікія грудзі, лічылі... што надта прыгожа.

(працяг будзе)

Фота і тэкст
**Ганны КАНДРАЦЮК**

ISSN 0546-1960